Наш адрас у Інтэрнэце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
2 жніўня 2001 г.
№ 31 (527)
Кошт 110 рублёў

## Ярмошын дбае пра ўборку

**Сёння з рабочай паездкай на Гарадзеншчыне знаходзіцца прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын.**

Падчас візіту Ул. Ярмошын плануе азнаёміцца з арганізацыяй уборачнай кампаніі.

## Дзіця на могілках

**Цэлую ноч з 30 на 31 ліпеня супрацоўнікі міліцыі Гродна і Гарадзенскага раёна, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і пагранічнікі шукалі зніклую паўтарагадовую дзяўчынку.**

Паводле інфармацыі УУС Гарадзенскай вобласці, бацькі, жыхары вёскі Луцкаўляны Гродзенскага раёна, паведамілі, што дзяўчынка знаходзілася на полі разам з бабуляй-пенсіянеркай. Калі тая у чарговы раз вырашыла паглядзець на дзіця, то не знайшла ўнучку. Для пошуку дзіцяці былі задзейнічаныя аператыўныя атрады міліцыі, аднак калі стала відавочна, што пошукі не прыносяць поспеху, па трывозе паднялі ўвесь асабовы склад міліцыі Гродзенскага раёна. Толькі ў 6 гадзін раніцы дзяўчынка была знойдзена жывой і здаровай на мясцовых могілках, прычым знайшла яе маці.

Супрацоўнікі міліцыі называюць неверагодным той факт, што паўтарагадоваму дзіцяці ўдалося пераадолець прыблізна паўтара кіламетра кукурузнага поля - менавіта на такой адлегласці ад месца знікнення была знойдзена дзяўчынка.

## Валютныя махляры

**Супрацоўнікі ўпраўлення ўнутраных спраў Гарадзенскага аблвыканкама праводзяць аператыўныя мерапрыемствы па вышуку злачыннай групы, якая займаецца махлярствам з валютай.**

Як паведамілі 30 ліпеня ў прэс-цэнтры УУС аблвыканкама, ужо ўдалося высвеціць прыблізную схему дзеяннаў махляроў. Група працуе ў асноўным са стодоларавымі купюрамі ў найбольш ажыўленых месцах - ля абменных пунктаў валюты ў гродзенскіх крамах «Ніка», «Мока», «Няміга-Фаварыт». У час нелегальнага абмену валюты з'яўляецца адзін з членаў групы і прадстаўляецца супрацоўнікам міліцыі. «Мяняла» на момант хавае купюру, а пасля аддае яе кліенту. Кліент, які не хоча мець праблем з міліцыяй, адыходзіць, а пасля выяўляе, што замест 100 долараў яму вярнулі 1, 5 ці максімум 10 долараў.

На сёняшні дзень, па звестках МУС, у Гродне зафіксавана ўжо 5 фактаў злачынстваў, здзейсненых гэтай групай.

**Павал Мажэйка**



НАДВОР'Е

**3,4 жніўня** - пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, вецер пераменнага напрамку, 3-9 м/с. Тэмпература паветра **3 жніўня ўдзень +19...+24, уначы +9...+14; 4 жніўня ўдзень +25...+30, уначы +14...+19.**




# Гарадзенскія прадпрыемствы не хочуць у расейскія каталогі

**Ніводнае прадпрыемства Гарадзеншчыны не пажадала на сёняшні дзень узяць удзел у конкурсе «Лепшыя тавары Беларусі на рынку Расейскай Федэрацыі», абвешчаным Дзяржстандартам РБ. Нават нягледзячы на тое, што ўдзел у конкурсе аможа аб'ектыўна дапамагчы беларускім прадпрыемствам стварыць рэпутацыю і падвысіць экспартнасць тавараў. Паводле ўмоваў, імёны пераможцаў будуць унесеныя ў каталог «100 лепшых тавараў Расеі».**

Конкурс быў абвешчаны 26 ліпеня 2001 года. Праграма «Сто лепшых тавараў Расеі» ўжо некалькі гадоў праходзіць у Расеі. Але Беларусь уцягнутая ў яе ўпершыню. Для беларускіх удзельнікаў выдзелена арганізатарамі 30 прызавых месцаў, аднак відавочна, што гэтага будзе зашмат, бо зацікавіліся конкурсам толькі 25 беларускіх прадпрыемстваў, а заяўку на ўдзел падало адно прадпрыемства - Берасцейскі малочны камбінат. На Гарадзеншчыне зацікаўленасць выказалі толькі «Азот» і лідскі «Белтэкс Оптык».

У конкурсе могуць прыняць удзел усе юрыдычныя асобы незалежна ад формы ўласнасці, якія пастаўляюць прадукцыю ў Расею. Ён праходзіць па наступных намінацыях: харчовыя тавары, прамысловыя тавары для насельніцтва, прадукцыя вытворча-тэхнічнага прызначэння.

Адмаўляюцца ад удзелу ў конкурсе «100 лепшых тавараў Расеі» і гарадзенскія прадпрымальнікі.

- *Вельмі вялікая заяўка патрабуе шмат часу на запаўненне. А прадпрымальнікі вымушаныя «круціцца», працаваць*, - патлумачыў ПАГОНІ прычыны такога нежадання ўдзельнічаць у конкурсе гарадзенскіх прадпрымальнікаў **Аляксандр Красцін**, супрацоўнік Гарадзенскага абласнога тэрытарыяльнага камітэта прадпрымальніцтва і інвестыцыяў. - *Да таго ж, арганізатары выставілі занадта вялікі арганізацыйны ўнёсак: пяць мінімальных заробкаў за кожную заяўленую адзінку прадукцыі.*

Аднак, прычына, чаму гарадзенскія і беларускія прадпрыемствы не хочуць патрапіць у рэкламныя каталогі, нам бачыцца ў іншым. Быць бізнесоўцам у Беларусі сёння складана і небяспечна. Як толькі даведаюцца адпаведныя органы, што прадпрыемства квітнее і мае прыбыткі, адразу наступіць «прапанова» скінуцца на «дажынкі». Многія беларускія прадпрыемствы застаюцца сёння на рынку толькі з мэтай захаваць месца. Залішняя рэклама ім непатрэбная і, нават, шкодная. Тым больш у расейскіх каталогах.

**Алеся Сідлярэвіч**

## У Зэльве зноў пачуюць голас Геніюш

**12 жніўня бягучага года ў Зэльве адбудуцца ўрачыстасці з нагоды 91-й гадавіны са дня нараджэння славутай паэткі Ларысы Геніюш. Традыцыйна арганізатарам урачыстасцяў з'яўляецца Зэльвенская арганізацыя КХП БНФ.**

Як паведаміў ПАГОНІ Юрый Качук, ініцыятар правядзення сёлетніх мерапрыемстваў, пачнецца святкаванне а 12-й гадзіне 12 жніўня малебнам у Свята-Траецкай царкве Зэльвы. Пасля ўдзельнікі ўрачыстасцяў ушануюць памяць паэткі на мясцовых могілках, дзе знаходзіцца магіла Ларысы Геніюш. Увечары мае адбыцца паэтычная і бардаўская вечарына.

Арганізатары святкавання плануюць запрасіць у Зэльву паэтак і паэтаў: Дануту Бічэль, Вольгу Іпатаву, Міхася Скоблу, прэтэндэнта на пасаду Прэзідэнта Беларусі Сямёна Домаша, бардаў Віктара Шалкевіча і Андрэя Мельнікава.

## Эх, Rockнем у Гродне

**На 22 жніўня ў Гродне запланавана правядзенне музычнага фэсту «Эх, Rockнем» з удзелам лідскіх гуртоў «Столле», «Санта Роза», «LSD». Месцам правядзення канцэрта стане канцэртная зала «Гродна», пачатак канцэрта прызначаны на 20 гадзін. Тур фэсту пройдзе таксама ў Лідзе - 20 жніўня, Шчучыне - 21 і ў Слоніме - 23 жніўня.**

Паводле заяваў арганізатараў туру «Эх, Rockнем» (а тур падтрымоўвае мазырская фірма «АРТ-Студыя»), сцэнаграфія, канцэртнае святло, гук будуць найвышэйшай якасці. Флаеры, якія распаўсюджваюцца разам з білетамі, паведамляюць наступнае: «Не істотна, ці любіш ты рок-музыку. Але, калі ты прыйдзеш на наш канцэрт, дык убачыш захапляльнае відовішча, якое вынесеш назаўсёды!».

Каментуючы ПАГОНІ склад удзельнікаў фэсту, Аляксандр Свірыдаў, музычны крытык адзначыў:

- Лідскія гурты «Столле», «LSD», напэўна, - найлепшыя сёння ў Беларусі. Яны праехаліся з канцэртамі па ўсёй Еўропе. «LSD» уваходзіў нават у еўрапейскія чаты. У адрозненне ад «LSD», які мае выключна ангельскамоўны рэпертуар, «Столле» выконвае частку песень па-беларуску.

**П.М.**

## Гарачая лінія з Васілём Лявонавым!

**Паважаныя сябры! ПАГОНЯ працягвае серыю гарачых лініяў з лідарамі палітычнага жыцця Беларусі. Мы мяркуем, што ў ходзе гэтай акцыі Вы зможаце задаць па тэлефоне пытанні, якія Вас цікавяць, найбольш вядомым і аўтарытэтным людзям нашай краіны. Іх імёны мы будзем вызначаць таксама і з улікам Вашых пажаданняў.**

Наступнай асобай, з якой сустрэнуцца чытачы ПАГОНІ, стане кіраўнік незарэгістраванага руху «За новую Беларусь»

**Васіль Лявонаў,**

які ласкава пагадзіўся наведаць рэдакцыю нашай газеты.



### Гарачая лінія з ім адбудзецца 10 жніўня

Для таго, каб з першых вуснаў пачуць адказы на пытанні, якія тычацца сённяшняга палітычнага становішча і выбарчай кампаніі, ТЭЛЕФАНУЙЦЕ

10 жніўня з 12.00 да 14.00 на нумар тэлефона:

- 72-29-96 (для гарадзенцаў)
- 0152-72-29-96 (для іншагароднiх)

# Сямён Домаш у Цюмені

*- Нягледзячы на тытанічныя намаганні Амбасады Беларусі ў Расеі, паездку ў Цюменскую вобласць лічу паспяховай. У мяне адбыліся плённыя сустрэчы, якія адкрываюць добрыя перспектывы для супрацоўніцтва,* - **заявіў журналістам 29 ліпеня прэтэндэнт на прэзідэнцкую пасаду Сямён Домаш адразу пасля вяртання з Цюмені, куды ён быў запрошаны мэрам гэтага горада спадаром Сцяпанам Кірычуком.**

Сямёну Домашу ўжо ў Цюмені паведамілі, што напярэдадні супрацоўнікі беларускай Амбасады неаднойчы тэлефанавалі ў абласную адміністрацыю, у мэрыю Цюмені і нават ва ўпраўленне ФСБ па Цюменскай вобласці з просьбай да высокіх чыноўнікаў адмовіцца ад сустрэчаў з патэнцыйным кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Гэта, магчыма, тлумачыцца тым, што хутка адбудзецца візіт у гэты рэгіён Аляксандра Лукашэнкі. Тым не менш, усе сустрэчы, запланаваныя падчас паездкі Сямёна Домаша ў Цюмень, адбыліся.

У прыватнасці, вельмі цёплая атмасфера панавала падчас размовы Сямёна Домаша з мэрам Цюмені Сцяпанам Кірычуком, на сустрэчах з першым віцэ-мэрам Мікалаем Раманавым і віцэ-мэрам Наталляй Шэўчык, выконваючай абавязкі старшыні гарадской думы Валянцінай Конюхавай. Асноўнай тэмай размоваў былі прычыны недастаткова эфектыўнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Цюменскай вобласцю. Тая ж тэма была закранутая і на сустрэчы Сямёна Домаша і віцэ-губернатара Цюменскай вобласці Уладзіміра Якушава.

Сустрэча адбылася на прымеркаванай да Дня горада выставе сельскагаспадарчай і камунальнай тэхнікі, якая набываецца за мяжой. У прыватнасці, на выставе была прадстаўлена прадукцыя Менскага трактарнага завода і пагрузчыкі вытворчасці айчыннага прадпрыемства «Амкадор». Расейскі бок паскардзіўся на высокі кошт беларускай тэхнікі, у адказ на што атрымаў падрабязнае і эканамічна абгрунтаванае тлумачэнне такой сітуацыі.

На сустрэчы з прадстаўнікамі нафтавых, газавых ды інвестыцыйных кампаніяў рэгіёну Сямёна Домаша ўпэўнілі, што расейскі бізнес гатовы інвеставаць у беларускую эканоміку сур'ёзныя рэсурсы ў выпадку перамогі дэмакратычнага кандыдата на выбарах. Зараз жа, паводле словаў прадстаўнікоў прадпрымальніцкіх колаў Цюменшчыны, працаваць з Беларуссю складана з прычыны «нестабільнага заканадаўства, адсутнасці рынкавых механізмаў і самаўпраўства чыноўнікаў».

Сямён Домаш з задавальненнем прыняў прапанову выступіць на святочным мітынгу з нагоды Дня горада і перадаў шматтысячнаму натоўпу, які сабраўся на галоўнай плошчы горада, віншаванні з Беларусі. Паколькі ў Цюмені жыве каля 15 працэнтаў этнічных беларусаў, гэтае вітанне было сустрэта апладысментамі. Дарэчы, згодна з праграмай візіту, Сямён Домаш правёў шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў, паразмаўляў з прадстаўнікамі беларускай і ўкраінскай дыяспараў.

**Ул. інф.**

# Ветэраны вайны і працы застаюцца з Домашам

**31 ліпеня Рада Гарадзенскага гарадскога грамадскага аб'яднання ветэранаў вайны, працы і Узброеных сілаў распаўсюдзіла заяву «Мы з Сямёнам Домашам», дзе сказана, што вылучэнне Уладзіміра Ганчарыка адзіным кандыдатам ад апазіцыі з'яўляецца «памылковым рашэннем, вялікім пралікам».**

Як адзначаецца ў заяве, падчас бягучай выбарчай кампаніі ветэраны ўважліва сачылі за падрыхтоўкай да прэзідэнцкіх выбараў. Паводле словаў Мікалая Мельнікава, старшыні Рады аб'яднання, «мы ўсе пераканаліся, што сярод прэтэндэнтаў на высокую пасаду па сваіх якасцях кіраўніка і чалавека вылучаецца Сямён Домаш». Сямён Домаш, падкрэсліваецца ў заяве, стаў сапраўдным лідарам дэмакратычных сілаў рэгіёнаў Беларусі, яму сімпатызуюць як простыя людзі, так і беларуская інтэлігенцыя.

У сваю чаргу, «лідар афіцыйных прафсаюзаў», а менавіта так называецца ў заяве Уладзімір Ганчарык, на думку Рады аб'яднання ветэранаў, за гады кіравання Аляксандра Лукашэнкі не вызначыўся як палітык,.. не зблізіўся з тымі, хто змагаўся за правы чалавека». «Ганчарык мае невялікі шанец быць абраны Прэзідэнтам» - гаворыцца ў заяве.

Як адзначыў ПАГОНІ Мікалай Мельнікаў, «ветэраны, якія прысвяцілі ўсе свае сілы і досвед служэнню Айчыне, і зараз выступаюць за яе адраджэнне, ахвяры палітычных рэпрэсіяў, з болем у сэрцы ўспрынялі магчымы няўдзел у прэзідэнцкіх выбарах Сямёна Домаша».

*- Сямён Домаш абавязаны працягваць удзел у выбарчай кампаніі. Ветэраны ўпэўненыя, што ён пераможа,* - заявіў **ПАГОНІ Мікалай Мельнікаў.**

# Ці ёсць Ганчарыку што сказаць беларускаму народу?

**Вылучэнне адзіным кандыдатам у прэзідэнты Уладзіміра Ганчарыка вельмі абвастрыла супярэчнасці ў дэмакратычным лагеры. Прыхільнікі Сямёна Домаша выказваюць незадаволенне тым, што адзіным кандыдатам не быў прызнаны Домаш. Шмат хто заклікае Домаша працягваць барацьбу і не здымаць сваю кандыдатуру на карысць Ганчарыка.**




Фігура Домаша сапраўды выглядае больш перспектыўнай. Ён маладзейшы. Рэальна кіраваў гаспадаркай цэлай вобласці. Галоўнае, за ім стаяць гэтакія ж рэальныя палітычныя сілы і людзі: рэгіянальныя суполкі, партыі ды рухі патрыятычнай накіраванасці. Домаш па колькасці сабраных у Гродне подпісаў перасягнуў Лукашэнку. За Домаша падпісаліся 10 843 чалавекі, а за Лукашэнку - 10 084 выбаршчыкі. Ганчарык мае толькі прафсаюзы. Што такое прафсаюзы, ведае кожны - яны не могуць абараніць сябе, не тое, што прымусіць дзяржаву выконваць абавязкі адносна рабочых і сялянаў. Так што прафсаюзы тыя няшмат дапамогуць Ганчарыку. Такая рэальнасць.

Незразумела, хто стаіць за Ганчарыкам. Вядома, што Васіль Лявонаў - былы міністр сельскай гаспадаркі ва ўрадзе Лукашэнкі, былы першы сакратар Магілёўскага абкама. Далей цьмяна. Ці не азначае гэта таго, што нешматлікая наменклатура хоча пад Ганчарыка задзейнічаць чалавечы і арганізацыйны рэсурс апазіцыі? То бок, у чарговы раз прымусіць зрабіць за яе цяжкую працу, а потым зноў сесці на карак народу?

Незразумела таксама і тое, што прымусіла Домаша, Казлоўскага, Калякіна і Чыгіра пагадзіцца з выбарам Ганчарыка першым сярод роўных. Чым такім прывабіў іх Ганчарык?

Так што пытанняў шмат, але ніхто з «пяцёркі» не спяшаецца даваць на іх адказы. І дарэмна, бо Домаш можа спакусіцца, і не зняць сваю кандыдатуру. Тады ў другі тур выйдуць Лукашэнка з Гайдукевічам. З тае прычыны, што галасы дэмакратычнага электарату падзеляцца паміж Ганчарыкам і Домашам (а Гайдукевічу зробяць патрэбную лічбу). Альбо выбаршчык пачне галасаваць супраць усіх, і тады Лукашэнка выйграе ў першым туры.

Паўза са стварэннем адзінай кааліцыі зацягнулася. Калі мне дакажуць, што Ганчарык - гэта не пенсійнага ўзросту бюракрат з досведам пабудовы камунізму, а сапраўдны беларускі лідар, што ж. Буду галасаваць за Ганчарыка. Пакуль жа ў краіне раскручваецца толькі адзін кандыдат - Лукашэнка. Ён запускае вакзалы і клінікі, патрануе мастакам і спартоўцам, пагражае ворагам, змагаецца з карупцыяй і гэтак далей.

Тым часам у апазіцыйных шэрагах амаль палову месяца - поўная цішыня. Ніхто нічога не робіць. Пайшлі ў летні адпачынак, ці што? Калі раскрутцы Лукашэнкі апазіцыя не здолее супрацьпаставіць рэальную выбарчую кампанію адзінага апазіцыйнага кандыдата, а будзе працягваць гуляць у наменклатурныя гульні «а-ля Кебіч», то прайграем краіну.

**Сяргей Самасей**

# Пракуратура ўзялася за АГП

**30 ліпеня ў пракуратуру Кастрычніцкага раёна Гродна позвай быў выкліканы намеснік старшыні Гарадзенскай гарадской арганізацыі Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Юрый Істомін. У позве было пазначана, што Юрый Істомін выклікаецца «для размовы ў якасці сведкі».**

Паводле словаў Юрыя, старэйшага памочніка пракурора С.Зайцава, які праводзіў размову, між іншым, цікавілі пытанні дзейнасці Гарадзенскай арганізацыі АГП і шэрагу маладзёвых арганізацыяў горада. Таксама С.Зайцаў спрабаваў высветліць шляхі паступлення ў Гродна друкаванай прадукцыі, канкрэтна ўлётак і налепак, змест якіх накіраваны на «нанясенне шкоды дзяржаўнаму і грамадскаму ладу ды абражае гонар і годнасць дзеючага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

Адпаведна словам Юрыя, яму давялося скласці тлумачальную запіску. Як стала вядома ПАГОНІ, некалькі ўзораў налепак на дадзены момант знаходзіцца на экспертызе. Пасля яе заключэння пракуратура вырашыць, ці распачынаць па факту распаўсюджвання налепак крымінальную справу.

# Камуністам няма жыцця без Ганчарыка

**У аўторак, 31 ліпеня, Гродна наведаў Сяргей Калякін, старшыня Партыі Камуністаў Беларускай, былы прэтэндэнт на пасаду Прэзідэнта Беларусі. Лідар камуністаў правёў сустрэчу з гарадзенскім актывам партыі. Як стала вядома ПАГОНІ, прычынай візіту Сяргея Калякіна ў Гродна маглі стаць пэўныя рознагалоссі сярод сяброў гарадзенскай арганізацыі, якія ўзніклі падчас збору подпісаў.**

Аднак, як паведамілі ПАГОНІ ў гаркаме ПКБ, візіт Сяргея Калякін меў выключна тэхнічны, рабочы характар. На сустрэчы былі падведзеныя вынікі збору подпісаў у вобласці за лідара кампартыі і абмяркаваныя далейшыя дзеянні арганізацыі як у перыяд да выбараў, так і магчымыя ўмовы існавання пасля выбараў Прэзідэнта Беларусі. ПКБ, як вядома, прыняла рашэнне падтрымоўваць на прэзідэнцкіх выбарах Уладзіміра Ганчарыка. На пачатак жніўня запланаваны Пленум партыі, дзе будзе выпрацавана пазіцыя партыі да магчымых вынікаў рэгістрацыі кандыдатаў. Гарадзенская філія ПКБ папярэдняе рашэнне ўжо прыняла - працаваць на Уладзіміра Ганчарыка.

- Калі ўлада не зарэгіструе Ганчарыка, нам няма чаго рабіць у гэтым жыцці. Ні Лукашэнка, ні Домаш, ні тым больш «падсадная качка» Гайдукевіч нам не патрэбныя, - заявілі ПАГОНІ ў гаркаме ПКБ.

**Павал Мажэйка**

# Правадыр беларускіх нацыяналістаў

У выдавецтве «Голас Краю» выйшла з друку кніга Сяргея Ярша «Усевалад Родзька. Правадыр беларускіх нацыяналістаў». Кніга распавядае пра аднаго з выдатнейшых беларускіх нацыяналістаў XX стагодзьдзя. Усевалад Родзька ў гады другой сусьветнай вайны быў адным з кіраўнікоў Беларускага нацыянальнага Супраціву, ачольваў падпольную антыфашыстоўскую й антыбальшавіцкую Беларускую Незалежніцкую Партыю, камандаваў батальёнам Беларускай Краёвай Абароны, арганізоўваў антыбальшавіцкі партызанскі рух. Ён жыў і змагаўся для Беларусі, ён паклаў сваё жыцьцё на алтар Бацькаўшчыны, набліжаючы дзень яе вызваленьня.

У кнізе зьмешчаныя ўспаміны двух баявых пабрацімаў Усевалада Родзькі, а таксама архіўныя дакуманты, якія друкуюцца ўпершыню (перапіска палкоўніка Кастуся Езавітава з афіцэрамі сьпецыяльнага беларускага дэсантнага батальёна «Дальвіц»).

Выданьні «Усевалад Родзька. Правадыр беларускіх нацыяналістаў», «Беларускі нацыяналізм» можна прыдбаць на сядзібе ТБМ (вуліца Румянцава,13), на штаб-кватэры БНФ (вуліца Варвашэні,8) ці замовіць на сайце беларускіх нацыяналістаў (www.spa-kraj.org).

МОЛАДЗЬ І ВЫБАРЫ



Патрыятычная моладзь Гродна адзначыла Дзень Незалежнасці Беларусі — 27 ліпеня — масавым вывешваннем нацыянальных сцягоў
На здымку: бел-чырвона-белы сцяг над Новым замкам

# Белашэўскі ставіць задачу - прагаласаваць датэрмінова

**Як стала вядома ПАГОНІ з крыніцаў, вартых даверу, генерал Анатоль Белашэўскі, начальнік Гарадзенскага абласнога ўпраўлення Міністэрства ўнутраных справаў, паставіў задачу сваім падначаленым прагаласаваць на прэзідэнцкіх выбарах датэрмінова. Абвесціў пра гэта Анатоль Белашэўскі ў панядзелак на традыцыйнай пяціхвілінцы, дзе прысутнічалі кіраўнікі міліцэйскіх аддзелаў і падраздзяленняў.**

*- Дзеянні начальніка абласной міліцыі Анатоля Белашэўскага груба парушаюць дзеючае выбарчае заканадаўства, -* **пракаментаваў сітуацыю ПАГОНІ Аляксандр Антанюк, старшыня Гарадзенскага аддзялення Беларускага Хельсінкскага Камітэта.** *- Паводле артыкула 191 Крымінальнага Кодэкса РБ, гэтыя дзеянні можна класіфікаваць як «перашкоду праву свабодна выбіраць», вызначана і мера пакарання за гэтае парушэнне - абмежаванне волі на тэрмін ад двух да пяці гадоў, альбо пазбаўленне волі да пяці гадоў. А артыкул 41 Закона «Аб міліцыі» наогул «забараняе выкарыстоўваць міліцыю і яе магчымасці ў палітычнай дзейнасці».*

Генерал Белашэўскі вызначаецца асаблівай стараннасцю ў бягучай выбарчай кампаніі. Яшчэ ў чэрвені ПАГОНЯ паведамляла пра тое, як начальнік абласной міліцыі заклікаў сваіх падначаленых агітаваць і галасаваць за Аляксандра Лукашэнку. Навошта генерал міліцыі так актыўна імкнецца «прагнуцца» перад сённяшняй уладай і ставіць перад сабою ды сваімі падначаленымі абсалютна неміліцэйскія задачы? Можа, генералу ёсць што хаваць у сваёй службе і ён баіцца наклікаць на сябе гнеў зверху?

**Антон Клёк**

# Кангрэс Беларускай моладзі падтрымаў двухадзінага кандыдата

**29 ліпеня ў Палацы культуры «Сукно» у Менску прайшоў Кангрэс беларускай моладзі. Ён сабраў каля 500 удзельнікаў з розных раёнаў краіны. Большасць з іх - актывісты «Маладога Фронту», «Задзіночаньня беларускіх студэнтаў», «Маладой Грамады», руху «Зубр».**

Разам з тым відавочна, што сапраўды аб'яднанага кангрэса беларускай моладзі арганізаваць не ўдалося. У яго працы не бралі удзел прадстаўнікі мноства маладзёжных арганізацый, у тым ліку такіх буйных, як «Моладзь АГП», Беларускі саюз моладзі і Беларускі патрыятычны саюз моладзі. Гэтая акалічнасць, дарэчы, паслужыла падставай для невялікага інцыдэнту перад пачаткам кангрэса. Прадстаўнікі Беларускай лігі абароны правоў сексуальных меншасцей «Лямбда», якой было адмоўлена ў праве браць удзел у кангрэсе, пры падтрымцы анархістаў правялі ў фае Палаца культуры акцыю пратэсту. Некалькі маладых людзей, пераапранутых у жаночае адзенне, разгарнулі сцяг сваёй арганізацыі і раздавалі адпаведную літаратуру.

Канцэпцыю кангрэса акрэсліў у першым жа выступленні адзін з актывістаў Партыі БНФ, былы намеснік старшыні «Маладога Фронту» Аляксей Янукевіч. Мерапрыемства ён назваў «кангрэсам нацыяналістычнай беларускай моладзі». Янукевіч гаварыў аб неабходнасці цвёрда стаяць на абароне нацыянальных інтарэсаў Беларусі, яе незалежнасці, мовы і культуры. Гэтая тэма атрымала развіццё ў дакладзе аднаго з кіраўнікоў кангрэса - кіраўніка грамадскай арганізацыі «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» Алега Трусава. Ён заявіў, што апошнім часам, асабліва перад выбарамі, стала прыкметна «рускамоўнае пранікненне ў асяроддзе беларускай моладзі». Трусаў заклікаў удзельнікаў кангрэса не распаўсюджваць рускамоўныя ўлёткі, наклейкі і не насіць майкі з надпісам «Зубр», што выклікала ў зале вельмі неадназначную рэакцыю.

У ліку выступоўцаў былі таксама старшыня Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Анатоль Грыцкевіч і іншыя вядомыя дзеячы.

Каля 13 гадзін на кангрэс прыбыў адзіны прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзімір Ганчарык. У сваім выступленні ён заклікаў моладзь аказаць падтрымку адзінаму кандыдату ад аб'яднанай апазіцыі. Ён зазначыў, што разумее расчараванне тых, хто збіраў подпісы за іншага прэтэндэнта.

*- Не ўсе з вас задаволены рашэннем «пяцёркі», гэта зразумела... Але неабходна разумець: вашы намаганні пайшлі на карысць агульнай справе і зараз ігнараваць рашэнне «пяцёркі» было б недапушчальнай памылкай,* - сказаў Ганчарык.

Яго прамова была сустрэта апладысментамі, а пасля выступлення моладзь акружыла палітыка з просьбамі даць аўтограф.

Прыкладна ў 13.30 работа кангрэса была спынена супрацоўнікамі міліцыі. Раптоўна з'явіўшыся ў зале, яны заявілі: паступіў званок, што будынак Палаца культуры замініраваны. Міліцыянеры прапанавалі ўсім пакінуць памяшканне. Іх словы былі негатыўна ўспрыняты моладдзю, аднак арганізатары далі работнікам міліцыі магчымасць агледзець памяшканне. Агляд паказаў, што трывога была дарэмнай, пасля чаго міліцыянеры пакінулі памяшканне, а кангрэс працягнуў сваю работу.

У другой палове дня на Кангрэсе выступіў патэнцыяльны кандыдат у прэзідэнты Беларусі Сямён Домаш. З'яўленне Домаша было сустрэта авацыяй, паколькі сярод удзельнікаў кангрэса шмат членаў яго ініцыятыўнай групы. У сваім выступленні Сямён Домаш заявіў:

*- Моладзь - гэтая тая Беларусь, якую мы будуем у сваіх марах, а хутка пабудуем і ў жыцці.*

Сёння, зазначыў ён, Беларусі як ніколі патрэбны маладыя сілы.

*- Вас паўтара мільёна, і пры кансалідаваных дзеяннях перад вашай сілай не ўтрымаецца ніякая сцяна дыктатуры,* - сказаў ён.

Домаш нічога не распавёў пра свае планы як патэнцыяльнага кандыдата ў прэзідэнты, а таксама аб сваім стаўленні да Уладзіміра Ганчарыка, які вылучаны адзіным прэтэндэнтам на пасаду прэзідэнта ад шырокай грамадзянскай кааліцыі. Ён толькі падкрэсліў, што на гэтых выбарах будзе вырашацца лёс Беларусі.

*- Пасля 11 гадоў суверэнітэту,* - сказаў Сямён Домаш, - *Беларусь нагадвае неабпаленую гліняную вазу, якая ў руках няўмелага ганчара можа дэфармавацца і прыняць любую форму.*

Сямёну Домашу Беларусь бачыцца як свабодная, дэмакратычная, прававаая еўрапейская дзяржава.

*- Маладыя людзі Беларусі павінны за мяжой нашай шукаць не палітычнае прыстанішча, а сяброў у бізнесе, культуры і гэтак далей,* - заключыў ён.

Пасля Домаша на кангрэсе выступілі лідэр Партыі БНФ Вінцук Вячорка, які заклікаў зрабіць перадвыбарную прэзідэнцкую кампанію «сапраўды беларускай», рэжысёр Юрый Хашчавацкі, а таксама Вячаслаў Сіўчык, Іван Саверчанка і іншыя вядомыя дзеячы. Яны заклікалі моладзь падтрымліваць адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі, выкарыстаць гэты шанц на перамогу ў выбарах. Па выніках кангрэса плануецца прыняць рэзалюцыю ў падтрымку дэмакратычных пераўтварэнняў.

Удзельнікі Кангрэса беларускай моладзі прынялі дзве рэзалюцыі. Адна з іх - «Моладзь патрабуе пераменаў» - прысвечана маючым адбыцца выбарам прэзідэнта Беларусі і прымалася ў абстаноўцы вострай дыскусіі. Многія дэлегаты Кангрэса не былі гатовыя падтрымаць вылучэнне Уладзіміра Ганчарыка, як адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў, таму што стаялі на пазіцыях Сямёна Домаша. Старшыня Гарадзенскага Маладога Фронту Вадзім Саранчукоў у сваім выступленні прапанаваў падтрымаць кандыдатуру Сямёна Домаша:

*- Хацелася б ведаць, хто і якім чынам за нас вырашыў, хто будзе нашым кіраўніком? Чаму тыя людзі, якія зрабілі справу, сабралі подпісы, якія хацелі бачыць кіраўніком дзяржавы канкрэтнага чалавека, чаму тыя людзі зараз дзесьці на задворках? Што гэта за Фронт, які лічыць сябе самай моцнай палітычнай сілай, але нават не змог абараніць кандыдата, якога ён падтрымліваў? Мы - тыя людзі, якія робяць Беларусь! Мы, людзі, якія прыехалі з Горадні, Берасця, Віцебску, мы павінны вырашаць, што нам рабіць і каго мы будзем падтрымліваць! Мы прыехалі сюды і выходзілі на вуліцы ўсе гэтыя гады не для таго, каб зняць Лукашэнку. Мы не хацелі проста змяняць аднаго чалавека - мы хацелі змяніць сістэму. Ці зменіцца сістэма, калі аднаго чыноўніка памяняць на другога? Я не ўпэўнены. Сямёна Мікалаевіча я ведаю ўжо досыць даўно, чатыры гады. За гэтага чалавека я магу адказваць. Беларусь будзе вольнай з тым кандыдатам, якога сёння падтрымае моладзь.*

У выніку абмеркавання рэзалюцыі паступіла прапанова ўнесці ў тэкст сказ: «Мы вітаем вылучэнне на прэзідэнцкую пасаду дэмакратычных кандыдатаў Уладзіміра Ганчарыка і Сямёна Домаша, калі яны бяруць абавязацельствы падтрымліваць дэмакратычныя пераўтварэнні». Гэтая фраза, якая па сутнасці супярэчыць рашэнню лідэраў шырокай грамадзянскай кааліцыі, што вылучылі ў якасці адзінага прэтэндэнта Уладзіміра Ганчарыка, у выніку галасавання ўсё ж была ўключана ў тэкст рэзалюцыі. Лідэру «Маладога Фронту» Паўлу Севярынцу, аднак, удалося дамагчыся ўключэння ў дакумент яшчэ адной праўкі: «Мы падтрымліваем вылучэнне адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі».

Каментуючы сітуацыю, Павел Севярынец зазначыў, што, нягледзячы на наяўнасць у рэзалюцыі абедзвюх фармулёвак, унутранай супярэчнасці ў дакуменце няма. Ён адлюстроўвае рэальную сітуацыю ў маладзёжным асяроддзі, заявіў лідэр «Маладога Фронту».

У другой рэзалюцыі - «Моладзь супраць рэжыму» - гаворыцца пра тое, што «актыўнасць беларускай моладзі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў выклікала сапраўдную паніку ва ўладаў». Толькі за апошні месяц было рэпрэсіравана больш за 200 членаў маладзёжных дэмакратычных арганізацый - «Маладога Фронту», «Маладой Грамады», руху «Зубр» і іншых. Удзельнікі кангрэса выказваюць сваё абурэнне дзеяннямі ўладаў і звяртаюць на іх увагу міжнароднай супольнасці.

**Генадзь Барбарыч, Алесь Зарэмбюк**

**Да выбараў Прэзідэнта 40 дзён**

РЭЙТЫНГ

# Галасуйце па тэлефоне!

**На старонках ПАГОНІ вы можаце галасаваць ужо сёння!**

Вы можаце аддаць свой голас кандыдату, за якога прагаласуеце на восеньскіх прэзідэнцкіх выбарах. Вызначце таксама аднаго кандыдата, за якога не будзеце галасаваць ні ў якім выпадку.

Галасуйце па тэлефоне 72-37-14 з 10.00 да 18.00 штодзень, акрамя выхадных.

Шэры слупок - галасы «ЗА», белы слупок - «СУПРАЦЬ».



Сяргей Гайдукевіч 1,3% 12,9%



Уладзімір Ганчарык 7,2% 5,0%



Сямён Домаш 37% 4,1%



Аляксандр Лукашэнка 5,4% 61,4 %

Выкарыстаныя фота IREX/ProMedia

# Нацягні ЯГО разам з эскадронамі смерці

**У аўторак, 31 ліпеня, у Гродне гарадзенскія актывісты руху супраціву «ЗУБР» раздалі жыхарам горада 700 асобнікаў газеты «Наша Свабода» з артыкулам "Эскадроны смерці". Акцыя па раздачы газетаў з сенсацыйнай інфармацыяй аб зніклых беларускіх палітыках праходзіла ў раёне чыгуначнага вакзала, гарадскога парка імя Жылібера і плошчы Леніна. Апошнімі днямі актывісты «ЗУБРа» значна актывізавалі сваю дзейнасць у Гродне.**

На працягу чатырох дзён мінулага тыдня, з 24-га па 27-е ліпеня, актывісты гарадзенскіх арганізацыяў Моладзі Аб'яднанай Грамадзянскай партыі, Беларускага аб'яднання маладых палітыкаў, Моладзевага хрысціянска-сацыяльнага саюза праводзілі ў Гродне сумесную акцыю «Нацягні яго!» па раздачы моладзі прэзерватываў. На ўпакоўках з кантрацэптывамі была наклеена выява вясёлага вусатага чалавека з чубком і прапановай «Нацягні яго! 09.09.2001».

Раздача прэзерватываў праводзілася ў месцах масавага збірання моладзі Гродна: у гарадскім парку на плошчы Савецкай, ля будынка Драматычнага тэатра, у раёне возера Юбілейнае. Удзельнікі акцыі былі апранутыя ў майкі з выявай шклянкі рыбы і надпісам: «Яна не мела голасу. А ў цябе ён ёсць. Час скарыстацца голасам. 09.09.2001».

**П.М.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Васіль Быкаў: «...беларускі народ страціў свой шанец выйсці ў шэраг цывілізаваных еўрапейскіх народаў»

**Інтэрв'ю з Васілём Быкавым, якое мы сёння вам прапануем, сталася вынікам праекту, падрыхтаванага сумесна журналістамі рускай службы «Нямецкай хвалі» і беларускага Радыё Рацыя. Удзел у ім узялі аглядальнік Радыё Рацыя Алесь Дашчынскі, журналіст рускай службы «Нямецкай хвалі» Андрэй Гуркоў, мастацтвазнаўца Антаніна Хатэнка і прэтэндэнт на пасаду Прэзідэнта Сямён Домаш. ПАГОНЯ друкуе інтэрв'ю з нязначнымі скарачэннямі.**


Васіль Быкаў

Аляксандр Дашчынскі: - ***Васіль Уладзіміравіч, я хачу працытаваць ліст расейскіх пісьменнікаў-франтавікоў, якія нядаўна выступілі ў Вашу абарону. У ім гаворыцца, што без высокіх заступнікаў і адданых імі адпаведных камандаў кампаніі ганення пісьменнікаў не ажыццяўляюцца. І добра памятаецца, колькі гора яны прынеслі ў савецкі час таленавітым мастакам, колькі шкоды айчыннай культуры! Але ўлады Беларусі, удзельнікі Вашага цкавання і не збіраюцца каяцца ці хаця б павінавацiцца. Спадар Васіль! Што б Вы маглі адказаць тым, хто назваў Вас літаратурным паліцаем, тым, хто зрабіў спробу націску на Вашу сям'ю?***

Васіль Быкаў:- Мне цяжка з імі спаборнічаць у нападках і адказах, таму што ў гэтых людзей - сапраўды літаратурных паліцаяў - досвед здушэння вельмі вялікі, вельмі даўні - яшчэ з часоў савецкай імперыі. Аднак, справа не ў іх, альбо не столькі ў іх, а ў тым рэжыме, які запатрабаваў тых людзей. І тыя з Масквы, са Старой плошчы, з Лубянкі прыехалі ў Менск і знайшлі тут магчымасць для рэалізацыі свайго прызначэння. Мы і не такое цярпелі. Як-небудзь вытрымаем. Бо той факт, што яны з такой заўзятасцю нападаюць на беларускую культуру, на беларускую інтэлігенцыю, сведчыць толькі пра тое, што іх канец блізкі.

Аляксандр Дашчынскі:- ***Паважаны спадар Быкаў! У Вас так шмат кніг пра вайну. Але атрымліваецца, што нашыя былыя ворагі ставяцца да Вас лепей, чым на радзіме. Можа, ім варта было б нас заваяваць?***

Васіль Быкаў:- Я думаю, што нашыя бітвы былі не дарэмнымі. Часткова я ўжо адказаў на гэтае пытанне. Але яшчэ, мабыць, варта дадаць, што часы змяніліся: зараз і Германія не там, і наогул сітуацыя ў свеце не тая, што была калісьці. Таму мне тут, у Германіі, лёгка і проста. Хаця тут ёсць свае складанасці - унутраныя, палітычныя ды іншыя. Але мне, прынамсі, тут спакойна працуецца, я магу жыць, не асцерагаючыся, што мяне ў цёмным завулку скрадуць ці у цёмным пад'ездзе я атрымаю кулю ў патыліцу. Гэта, я думаю, для пісьменніка вельмі важна. Ды і не толькі для пісьменніка, але і для кожнага грамадзяніна, і не толькі Беларусі, але і любой іншай краіны.

Андрэй Гуркоў:- ***Васіль Уладзіміравіч, напэўна, шмат у каго можа ўзнікнуць пытанне: перш як эміграваць у Германію, будучы літаратурным уцекачом, можа быць, варта было б накіравацца ў Расею, дзе Вас, напэўна, сустрэлі б сардэчна, дзе Вас так любілі і чыталі.***

Васіль Быкаў:- Так, сапраўды, я адчуваю падтрымку маіх сяброў з ліку літаратараў і нават з ліку ветэранаў мінулай вайны, якія пражываюць у Расеі, галоўным чынам - масквічоў. Але я ўсё-такі палічыў магчымым скарыстацца прапановай заходніх калег, а не расейскіх, таму што сітуацыя ў Расеі таксама вельмі неакрэсленая. А самае галоўнае - палітычны ўплыў рэжыму ў Беларусі на палітычную сітуацыю ў Расеі вельмі значны. Гэта толькі людзі недасведчаныя альбо няўважлівыя да таго, што адбываецца ў стасунках паміж нашымі краінамі, мяркуюць, што беларускі рэжым адчувае сталую падтрымку з боку кіраўніцтва Расеі. Але на самой справе і беларускі антыдэмакратычны рэжым таксама вельмі ўплывае на палітычнае становішча Расеі. Гэта, можа, пакуль не заўважна шырокаму колу, але хутка стане заўважна. Таму я аддаў перавагу ад'ехаць на Захад, а не на Усход.

Аляксандр Дашчынскі:- ***Спадар Васіль, куды, на Ваш погляд, павінна імкнуцца Беларусь? Да Расеі ці да Захаду? Ні інтэграцыя з Расеяй, ні нейтралітэт рэальна не прывялі ні да годнага жыцця, ні да адраджэння Беларусі. Ці можа ідэя ўваходу Беларусі ў NATO стаць стрыжнем новай хвалі антыімперскага руху?***

Васіль Быкаў:- Канечне, такой сітуацыі выключаць нельга. Але я думаю, што ў гэтай справе, у гэтай праблеме існуе адзін вельмі просты адказ: Беларусь знаходзілася з Расеяй больш як 70 гадоў у стане самага братняга сяброўства, самага поўнага адзінства, поўнай гармоніі ва ўсіх галінах - палітычнай, эканамічнай, культурнай, ідэалагічнай. І да чаго гэта прывяло? Гэта прывяло да абсалютнага краху ва ўсіх галінах нашага, так бы мовіць, экзістэнтнага існавання. Таму, кіруючыся разуменнямі элементарнага здаровага сэнсу, можна задацца пытаннем: ці не варта пераарыентавацца з азіяцкага Усходу на еўрапейскі Захад? Хаця ўвогуле гэты працэс таксама няпросты, і невядома, што абяцае нам гэты саюз, але, тым не менш, у гэтым мне бачыцца нейкі шанец. У той жа час свой папярэдні шанец мы рэалізавалі, і ён прывёў Беларусь да поўнага банкруцтва.

Андрэй Гуркоў:- ***Але, Васіль Уладзіміравіч, я дапускаю, што многія расіяне Вам нават з абурэннем адкажуць: ну, як жа так, а хто, як не ўся савецкая краіна, падымала Беларусь пасля таго, як яна была разбураная ў другой сусветнай вайне? Ці не ўся краіна перажывала за Беларусь, калі яна была акупаваная, і змагалася за яе вызваленне?! Што Вы адказалі б тым, хто падае такія аргументы - з часоў вайны?***

Васіль Быкаў:- Безумоўна, тады ў другой сусветнай вайне, саюз з Расеяй быў вельмі важны. Адмаўляць гэта немагчыма. Што ж датычыць пад'ёму разбуранай у выніку вайны народнай гаспадаркі, то я б сказаў, што Германія таксама была разбурана. І яна была аднёўлена вельмі паспяхова, эфектыўна, пры дапамозе плана Маршала, які быў адхілены Сталіным. Такім чынам, Беларусь магла б гэтым планам скарыстацца, але па волі «правадыра народаў» была пазбаўлена гэтай мажлівасці. Калі б так не адбылося, і Савецкі Саюз прыняў бы прапанаваную дапамогу збоку, перш за ўсё, Злучаных Штатаў, то ў такім выпадку Беларусь была б абавязана сваім адраджэннем Злучаным Штатам. Але не Беларусі давялося выбіраць свой шлях і свой лёс у гэтым дачыненні.

Андрэй Гуркоў:- ***Калі я Вас правільна разумею, Вы выступаеце за поўную незалежнасць Беларусі ад Расеі, за добрасуседскія адносіны, але поўную незалежнасць, і за пераарыентацыю, ці большую арыентацыю Беларусі на Еўропу, на Еўрапейскі саюз як самастойнай дзяржавы. Тым самым Саюзная расейска-беларуская дзяржава не з'яўляецца для Вас перспектыўнай?***

Васіль Быкаў:- Я дагэтуль здзіўляюся, як не толькі, так бы мовіць, народныя масы, але нават моваведы не бачаць такой дзіўнасці, алагізму ў гэтай фразе: «Саюзная дзяржава». Што значыць «Саюзная дзяржава»? Гэта тое ж самае, што і «вадзяны агонь», альбо «агнявая вада». Калі слова «Саюзная» прадугледжвае нешта, што складаецца з дзвюх частак, то «дзяржава» - нешта адзінае - адну адукацыю. Таму можа быць альбо «саюзная», альбо «дзяржава». Відаць па ўсім, ініцыятары інтэграцыі гэта выдатна разумеюць. Канечне, для адводу вачэй вынайшлі яны гэтую «саюзную», у той час як «дзяржава» - гэта іх сапраўдная мэта. Гэта стварэнне унітарнай дзяржавы. Гэта, па сутнасці, першыя крокі да імперыі - да новай імперыі, пасля той, якая была разбурана ў Белавежскай пушчы. Але, я думаю, зараз усё-такі іншыя часы. Беларусь па ўсіх законах - і чалавечых, і Боскіх, мае права на сваё суверэннае існаванне, а вось часы імперыяў незваротна адыйшлі ў мінулае, і ніякую імперыю ў Еўропе ўваскрасіць не ўдасца - ні Расейскую, ні савецкую, ні славянскую, пра якую таксама мараць пэўныя сілы, галоўным чынам у Маскве, ды і ў Беларусі таксама.

Антаніна Хатэнка:- ***Наколькі Вы бачыце, наколькі адчуваеце, што праблема ёсць не толькі ў палітычных стасунках Расеі і Беларусі, але, перш за ўсё, у свядомасці нашых людзей, у кодзе «я рускі» альбо «я падуладны старэйшаму брату». Як Вы, пісьменнік-мысляр, тонкі псіхолаг маглі б падказаць, дапамагчы народу выйсці вось з гэтай рабскай абалонкі на свабоду? Бо толькі пры выкананні гэтай умовы адносіны з Расеяй сталі б гарманічнымі.***

Васіль Быкаў:

- Я думаю, што адказ на гэтае пытанне беларусы шукаюць ужо не адно стагоддзе і, на жаль, гэты адказ не знаходзіцца. Напэўна, ён - метафізічнае, так скажам, паняцце. Але некаторыя скардзяцца на нізкую нацыянальную самасвядомасць, што канечне, правільна. Аднак, уся справа ў тым, што і гэтая нізкая нацыянальная свядомасць з'яўляецца галоўнай перашкодай у нацыянальным лёсе Беларусі. Пераадолець жа нацыянальную свядомасць з'яўляецца галоўнай перашкодай у нацыянальным лёсе Беларусі. Пераадолець жа яе нейкімі валявымі ці планавымі намаганнямі немагчыма. Ніякі метад хаджэння ў народ у дадзеным выпадку не дапаможа. Хаджэнне ў народ малаэфектыўна, асабліва для нашага народа, поўнага скепсісу і недаверу да слова, таму што надта шмат ён чуў словаў у сваёй гісторыі - і ўсе яны сталіся марнымі, або амаль усе. Таму толькі гістарычны досвед, толькі час могуць нечаму навучыць беларусаў і, перш за ўсё, садзейнічаць іх нацыянальнай самасвядомасці. Садзейнічаць таму, каб беларусы нарэшце зразумелі, што яны - абсалютна такі ж этнас, як і ўсе іншыя на Еўрапейскай мапе: не лепей і не горш, можа быць. Толькі з крыху запозненым этнічным лёсам. Ну, што ж тут можна сказаць... Даводзіцца толькі чакаць і, у меру сваіх сілаў дапамагаць гэтаму працэсу. Канечне, у першую чаргу, выхаванню нацыянальнай самасвядомасці - так мне падаецца.

Андрэй Гуркоў: - ***Але Вы не баіцеся, што час будзе страчаны і ідэя зліцця з Расеяй, ідэя адраджэння нейкіх рэштакаў Савецкага Саюза можа затармазіць ці наогул звесці да мінімуму гэты працэс, пра які Вы гаворыце.***

Васіль Быкаў:- Так, безумоўна, таму што дзейнічаюць не толькі натуральныя працэсы адраджэння нацыянальнай самасвядомасці, але яшчэ больш актыўна дзейнічаюць здушальныя працэсы, якія падаўляюць менавіта яе, тую самую нацыянальную самасвядомасць. Гэта асабліва заўважна ў галіне культуры і мовы. Мы ўсё ведаем, як за апошнія некалькі гадоў упала наша нацыянальная культура, як пры дапамозе некалькіх валявых, сілавых, уладных акцыяў беларуская мова амаль выведзеная з усяго цывілізаванага свету. Але, тым не менш, яны, пад той ці іншай маркай, перш за ўсё, палітычнай, канечне, маюць месца ў Беларусі. Відавочна, уся справа ў рэжыме. Пакуль будзе існаваць у нашай краіне вось гэты сучасны рэжым, ніякіх зрухаў у гэтым дачыненні, пазітыўных зрухаў - да прагрэсу беларускай нацыі - чакаць не даводзіцца.

Аляксандр Дашчынскі:- ***Спадар Васіль, якое значэнне будуць мець маючыя адбыцца прэзідэнцкія выбары для нашай краіны, ці спраўдзяцца надзеі на змены?***

Васіль Быкаў:- Я не прадказальнік, не аракул і не экстрасэнс. Цяжка ўсё сказаць. Я думаю, што тут не можа прадказаць ніхто. Ніякі самы рафінаваны аналітык не можа прадказаць таго, што можа адбыцца ў Беларусі. Таму што ўсё, што адбываецца ў Беларусі, выпала з натуральнай хады нават еўрапейскай гісторыі. І тут умяшаліся нейкія - ну, я сказаў бы, - незямныя сілы. Але гэтыя незямныя сілы маюць вельмі пэўнае, зямное паходжанне, канечне. Я вельмі сумняваюся, але я хацеў бы памыліцца ў маіх сумневах адносна таго, што мала што зменіцца - прынамсі, напрыканцы гэтага года - у Беларусі.

*Андрэй Гуркоў*:- ***Такім чынам, Вы ўсё-ткі захоўваеце пэўную долю аптымізму, што могуць адбыцца змены?***

Васіль Быкаў:- Я б хацеў захаваць большую долю аптымізму.

Сямён Домаш: - ***...За гэты «выбарчы» час я наведаў шмат гарадоў, раённых цэнтраў, абласных цэнтраў, маленькіх мястэчак краіны. І ведаеце, што мяне больш за ўсё ўразіла, а заадно і надало сілаў? У адрозненне ад настрою крыху песімістычнага тут, у цэнтры Беларусі - у сталіцы, усё-такі ў рэгіёнах людзі маюць вельмі вялікую надзею на тое, што 9-га верасня адбудзецца змена, што ў нас будзе зусім іншая сітуацыя і народ усё ж зробіць свой выбар на карысць таго палітыка, які павядзе Беларусь па дэмакратычнаму, цывілізаванаму шляху. Таму, я заклікаю Вас, Васіль Уладзіміравіч, Вы павінны паверыць у наш народ беларускі - а я ведаю, што Вы верыце ў яго: мы абавязкова, усе разам, зробім гэтыя змены, і 9-га верасня адбудзецца нешта важнае. І напрыканцы года, пра які Вы гаворыце, абавязкова Вы адчуеце: так, паварот адбыўся. Я прашу проста Вас разам з намі далучыцца вось да такога аптымізму, які сёння ўжо выказвае большая частка нашага насельніцтва.***

Васіль Быкаў: - Дзякуй, дарагі Сямён, я ўжо зараз гатовы далучыцца. Але баюся, што ў гэтым выбарчым працэсе, які чакае Беларусь, будзе вырашаць не народ, не выбаршчыкі, а сталінскі прынцып. Памятаеце, Сталін казаў: «Важна не тое, як галасуюць. Важна тое, як падлічваюць». Вось гэты падлік, баюся, вырашыць болей, чым вырашыць народ.

Андрэй Гуркоў: - ***Васіль Уладзіміравіч, а як Вы ставіцеся да актыўнасці выбаршчыкаў? Як у гэтай сітуацыі належыць рабіць - ісці на выбары? Альбо, маўляў, усё роўна нічога не зменіцца, і лепей як бы прадэманстраваць свой пратэст гэтаму рэжыму, які збіраецца, як Вы лічыце, сфальсіфікаваць выбары?***

Васіль Быкаў:- Я лічу, што нягледзячы на прадказальны ці рэальны зыход выбараў, ісці на іх і галасаваць неабходна. Проста неабходна выканаць свой грамадзянскі абавязак, нават калі зыход гэтага выканання будзе негатыўны. Але я хачу нагадаць Сямёну Домашу некаторы факт з нашай вельмі нядаўняй практыкі: калісьці, памятаеце, быў старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар. Ён таксама сказаў, што не дапусціць ніякай фальсіфікацыі, не падпіша сфальсіфікаваных дамоваў. І чым скончылася яго кар'ера? Яго кар'ера скончылася разам з ягоным жыццём, і вось цяпер яго дагэтуль шукаюць. І дай Бог, каб хаця б знайшлі ягонае цела.

Аляксандр Дашчынскі:- ***Спадар Васіль, можа быць, тут справа ў кандыдатах. Выкажыцеся, калі ласка, наконт дзвюх кандыдатураў - Сямёна Домаша і Зянона Пазьняка. І яшчэ, скажыце, чаму Вы не выставілі сваю кандыдатуру на прэзідэнцкія выбары?***

Васіль Быкаў:- Ну, пра што размова? Я не выставіў, таму што не палічыў яе годнай для гэтай мэты. Што ж датычыць Сямёна Домаша і Зянона Пазьняка, я гатовы падтрымаць іх абодвух. Таму што я лічу, што гэта важныя, можа быць, самыя аўтарытэтныя нашыя палітыкі на сёння. Але ўся справа ў тым, што я не ведаю, каму прыгатавана роля Прэзідэнта ў Беларусі. Я ж усёй душою гатовы падтрымаць і Сямёна Домаша, і Зянона Пазьняка. І калі на любым з іх беларускі народ спыніць свой выбар, - я шчаслівы буду.

*Аляксандр Дашчынскі*:- ***Спадар Васіль, як Вы бачыце бліжэйшую будучыню Беларусі? Які ўдзел у яе стварэнні Вы будзеце прымаць? Што чакае Беларусь і што рабіць?***

Васіль Быкаў: - Я не Госпад Бог, каб ставіць задачы беларусам, што ім рабіць. Відавочна, знойдуцца людзі, якія гэта зробяць. Але што чакае Беларусь? Цяжка сказаць... Я думаю, што ў гістарычным разрэзе беларускі народ страціў свой шанец выйсці ў шэраг цывілізаваных еўрапейскіх народаў. І далейшыя працэсы ў Беларусі, якія будуць адбывацца ў эканоміцы, палітыцы, культуры, будуць мець запаволены характар. І гэтае знаходжанне ў яме будзе працягвацца, баюся, яшчэ шмат гадоў.

# Такога поспеху гарадзенскі тэніс яшчэ не ведаў

**Дзве ўзнагароды, срэбраную і бронзавую, у камандным заліку прывезлі гарадзенскія прадстаўнікі малой ракеткі з «Алімпійскіх дзён моладзі Рэспублікі Беларусь» па настольнаму тэнісу сярод спартоўцаў 1986 года нараджэння і маладзейшых. Спаборніцтва праходзілі ў Пінску.**

Упершыню ў гісторыі гарадзенскага настольнага тэнісу, юнакі нашай вобласці здолелі ўзняцца ва ўнутраных спаборніцтвах вышэй за трэці радок.

Здзейсніла гэты прарыў каманда 1986 года нараджэння, у склад якой уваходзяць дзве гарадзенкі, якім толькі ў гэтым годзе споўнілася па 11 гадоў - гэта Анастасія Брузгіна і Дзіяна Сіліна, на год за іх старэйшыя - Аляксей Дзядзенка, Таццяна Мілюткевіч. І толькі Аляксей Кандакоў мае 15 гадоў.

У вочнай сустрэчы гарадзенцаў з камандай горада Менска, вырашалася, хто выйдзе пераможцам спаборніцтва. На жаль, нашы прадстаўнікі малой ракеткі ў ёй саступілі 1:5. Дагэтуль гарадзенцы буйна перамаглі Менскую, Гомельскую і Віцебскую вобласці (7:0), Магілёўскую (6:1) і Берасцейскую (4:3).

Гарадзенцы 1984/85 гадоў нараджэння сталі ўладальнікамі бронзавых узнагародаў. У шасці дуэлях нашыя спартоўцы саступілі двойчы камандзе з Менскай вобласці (0:4) і Берасцейскай (3:4). Якія і занялі адпаведна першае і другое месцы. Срэбраныя медалі дасталіся Ігару Маўліханаву, Віталю Ісаеву, Аляксандру Шайко і Юліі Кот.

**Дзяніс Курчэўскі**

# Ватыкан прызначыў у Беларусь новага нунцыя

Папа Ян Павал ІІ прызначыў новага нунцыя Апостальскае Сталіцы ў Беларусі. Ім стаў 49-гадовы славенскі монсіньёр Іван Юркавіч. Доктар кананічнага права Іван Юркавіч - прафэсійны дыплямат, які працаваў у нунцыятурах Ватыкану ў Паўднёвай Карэі, Калюмбіі й Расеі. Апошні час ён быў супрацоўнікам цэнтральнага апарату Дзяржаўнага дэпартамэнту Ватыкану.

Цяперашні нунцый у Беларусі Дамінік Грушоўскі паведаміў нашаму радыё, што, паводле законаў Ватыкану, дыплямат, якому споўнілася 75 гадоў, сыходзіць на пэнсію. А арцыбіскуп Грушоўскі нядаўна дасягнуў гэтага веку.

Новы нунцый прыедзе ў Беларусь прыкладна праз тры месяцы, пасьля таго, як Папа ўзьвядзе яго ў сан біскупа. Іван Юркавіч стане пятым нунцыем Апостальскай Сталіцы з часу ўсталяваньня дыпляматычных зносінаў паміж Ватыканам і Беларусьсю ў 1991 годзе.

**Альгерд Невяроўскі, Беларуская служба Радыё Свабода**

# Вакол электрастанцыяў на рацэ Нёман

**Памятаю 1938-39 гады, калі пры польскай уладзе абвесцілі, што з 1940-га па 1942 год на Нёмане будзе пабудавана вялікая водная электрастанцыя. Гаварылася, што гэтая станцыя павінна электрыфікаваць тры былыя паўночна-ўсходнія ваяводствы: Беластоцкае, Віленскае і Навагрудскае. Абяцалі таксама, што будуць электрыфікаваныя не толькі гарады і мястэчкі, але і ўся сельская мясцовасць, што электрычнае святло будзе ў кожнай вясковай хаце.**

З якой радасцю сустрэлі гэтую вестку! Людзі верылі, што пасля спрадвечнай адсталасці пачнецца лепшае жыццё. Але, на жаль, гэтай высакароднай справе не ўдалося ажыццявіцца.

Першага верасня 1939 года агрэсіўныя дзяржавы развязалі другую сусветную вайну. Людзям давялося чакаць 15 гадоў, пакуль з'явілася першае электрычнае святло, праўда, са слабым напружаннем і частымі выключэннямі.

У 60-я гады была пабудавана Бярозаўская цеплаэлектрацэнтраль, толькі тады электразабеспячэнне стала больш-менш нармальным.

Што здарылася зараз, калі будаўніцтва электрастанцыі на Нёмане стала жывой рэальнасцю? Скуль знайшлося столькі працінікаў электрастанцыяў на Нёмане? Ці маюць рацыю тыя людзі, што яны разумеюць у гэтай справе? Яны проста недасведчаныя нявольнікі экалогіі. Агідна ўсё гэта слухаць і чытаць.

Усе людзі ведаюць, што калі ў рацэ будзе больш вады, то яе прыродныя багацці рэзка ўзрастуць. І наадварот, калі вады ў рацэ менее і месцамі рэчка зусім перасыхае, надыходзіць поўная катастрофа, смерць усяму жывому. Варта ўсіх выслухаць, а потым даць ім разумны і слушны адказ. Яны хутка ўсё ўцямяць і скончаць гэтую разлютаваную вайну.

Дзіўна, няўжо людзі, якія жылі 60 гадоў таму, былі разумнейшыя за сённяшняе адукаванае пакаленне? Тыя радаваліся, а гэтыя злосна пратэстуюць. Нашыя спецыялісты павінны ўсё вельмі сур'ёзна прадумаць, каб сапраўды не наламаць дроваў. Так, як у свой час савецкія спецыялісты ў Асуане на рацэ Ніл збудавалі плаціну рэкорднай 100-мятровай вышыні. Тым самым вывелі з сельскагаспадарчага абарачэння чатыры мільёны гектараў урадлівай зямлі, з-за чаго ў Егіпце ўзнікла харчовая праблема, дагэтуль неіснуючая.

Можа быць, плануюцца занадта высокія плаціны (8-9-мятровыя). Можа, дастаткова вышыні пяці-шасці метраў. Нягледзячы на ўсё, электрастанцыі на Нёмане трэба будаваць. Навошта нам купляць электраэнергію, калі мы самі сябе можам забяспечыць, ды яшчэ лішкі прадаць.

Хіба будаваць водныя электрастанцыі не больш разумна, чым узводзіць атамныя электрастанцыі накшталт той жа Чарнобыльскай, якая прынесла нам столькі шкоды?

Часам глядзіш на срэднія і вялікія рэкі і думаеш: чаму такая колькасць вады не прыносіць людзям ніякай карысці? Становіцца неяк крыўдна за гэта. Сам Госпад Бог, як напісана ў «Святым пісанні», казаў першым людзям: «Накладайце ярмо на прыроду для сваёй карысці».

Пры ўзвядзенні плацінаў трэба адначасова будаваць шлюзы для пад'ёму і спуску рачных суднаў, каб плаціны не перашкаджалі нармальнай навігацыі па ўсім Нёмане. Гэта будзе садзейнічаць развіццю турызму, перавозцы пасажыраў і разнастайных грузаў.

Я заклікаю ўсіх жыхароў Гарадзеншчыны падтрымаць ідэю будаўніцтва электрастанцыяў на Нёмане.

**С.Салікоўскі, жыхар вёскі Пракаповічы, пенсіянер**

# З-за гэтых пажараў - ні пакурыць, ні выпіць

**За шэсць месяцаў гэтага года колькасць пажараў, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, узрасла з 739 да 743. На прэс-канферэнцыі Упраўлення па надзвычайных сітуацыях вобласці гаварылася пра абвальны рост гібелі людзей. У параўнанні з тым жа 2000 годам, загінула на 24 чалавекі больш - а гэта 78 чалавек, сямёра з якіх - дзеці.**

Асноўнай прычынай трагедыяў на пажарах застаецца п'янства - выпіў, закурыў, згарэў... Гэтыя абставіны сёлета ўжо прывялі да гібелі 51 чалавека.

За шэсць месяцаў гэтага года службы МНС зрабілі амаль 5000 баявых выездаў. З іх на пажары - 951 раз, удзельнічалі ў ліквідацыі 246 аварыяў ды іншых надзвычайных сітуацыяў. Выратавалі 201 чалавека.

За паўгоддзе пажары вынішчылі 189 будынкаў - ні многа ні мала, тры вёскі сярэдніх памераў.

На прэс-канферэнцыі намеснік начальніка абласнога ўпраўлення МНС Валерый Звалімбоўскі не замоўчваў фінансавых праблемаў. Звыш 60 працэнтаў пажарнай тэхнікі павінна быць спісана - адслужыла сваё. Да камплекту па штату неабходна закупіць 95 адзінак тэхнікі. Аднак, ратавальнікі вырашаюць не толькі праблемы іншых, але і свае ўласныя. На платных паслугах насельніцтву яны ўжо зарабілі 22 мільёны рублёў - 30 працэнтаў уласнага бюджэту. Карысна будзе даведацца, што з нядаўнага часу ў пажарнікаў па-суседску (але за пэўную плату) можна арандаваць 15-мятровую лесвіцу, адрамантаваць ці пафарбаваць аўто, а можна выклікаць машыну, каб зняць з вішні неслуха-ўнука, ды шмат чаго яшчэ. Такі пераход выратавальнікаў абумоўлены недахопам бюджэтных сродкаў.

**Алена Сіневіч**

# 10 тысяч рублёў і кветку для лепшай медсястры!

**Аперацыйная медсястра першага аддзялення анкалагічнай хірургіі Гарадзенскай абласной клічнай бальніцы Кацярына Маліноўская захавала званне лепшай аперацыйнай медсястры сваёй бальніцы. Конкурс прайшоў 26-га ліпеня ў галоўнай лячэбніцы вобласці.**



Удзельніцам конкурсу было прапанавана прайсці чатыры іспыты. На першым конкурсантні прадэманстравалі, які знешні выгляд павінна мець сучасная медычная супрацоўніца. На другім - сястрычкі прадставілі свае газеты «XXI век - здаровы чалавек». У іх дзяўчаты вызначалі асноўныя захворванні цяперашняга стагоддзя. Трэці іспыт складаўся з вырашэння задачаў па неадкладнай дапамозе хвораму. А падчас чацвёртага конкурсу медсёстры спрачаліся ў практычных навыках вырабу перавязачнага матэрыялу.

- Я не спадзявалася, што ў другі раз суддзі аддадуць мне перамогу, - гаворыць Кяцярына. - Пасля абвесткі вынікаў конкурсу, мне ўжо было не да эмоцыяў. Усе станоўчыя флюіды я аддала ў спрэчцы за перамогу. Аднак, усё роўна прыемна адчуваць сябе лепшай.

Кацярына паўтарыла свой поспех двухгадовай даўніны, калі за перамогу ў конкурсе была ўзнагароджана пуцёўкай у санаторый на возера Нарач. За сёлетні ж выйгрыш яна атрымала кветку і ўсяго 10 тысяч рублёў.

**Дзяніс Курчэўскі**

**На здымку: Кацярына Маліноўская — лепшая аперацыйная медсястра Гарадзенскай абласной клічнай бальніцы**

# Колькі блатных у нашых ВНУ?

**Скончыліся ўступныя экзамены ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. З нецярплівасцю чакаюць абітурыенты вынікаў. Сёлетняе паступленне, як абвесцілі па першай праграме Беларускага радыё, прайшло пры захаванні прынцыпаў "сацыяльнай роўнасці і справядлівасці", як таго і патрабуе заканадаўства Беларусі. Ці вераць у гэта абітурыенты ды іх сваякі?**



**Наташа, студэнтка ВНУ:**
- Не веру. Па-першае, ёсць усе магчымыя ільготы, якіх, я лічу, быць не павінна: выдатнікі, вяскоўцы. Шмат блатных...



**Ларыса, працуе на мэблевай фабрыцы:**
- Не надта верыцца. Многа блатных. У кагo даляры ёсць - лёгка паступіць.



**Андрэй, выпускнік Магілёўскай школы міліцыі:**
- Цяжка сказаць. Бадай, зараз усё вырашаюць грошы. У маёй групе было блатных працэнтаў 75.



**Ігар, афіцэр:**
- Працягвае дзейнічаць «прынцып валасатай рукі». На Захадзе, напрыклад, у чалавеку найперш цэняцца яго веды. У нас жа ў ВНУ «блатных» болей за палову ад усіх навучэнцаў.



**Мікалай, працуе у калгасе, бацька абітурыента:**
- Веру, хаця працэнтаў пяць-сем будуць блатных.



**Ігар, студэнт першага курса дзяржуніверсітэта імя Я.Купалы:**
- Канкрэтна не ведаю. Я быў залічаны ва універсітэт Янкі Купалы без уступных экзаменаў, бо атрымаў перамогу на алімпіядзе.

**Валянціна Мікалаеўна, працуе ў гандлі, маці абітурыенткі:**
- Не зусім. Блатныя заўсёды былі. Я ж сама вучылася. Урад наш у гэтым вінаваты.

**Апытвала Алеся Сідлярэвіч**

## Панядзелак, 6

### НАШЕ КИНО

**9.00** Сегодня в программе.
**9.05** Звездный билет. Василий Лановой в киноповести Татьяны Лукашевич «АТТЕСТАТ ЗРЕЛОСТИ». 1954 г.
**10.35** Дело №... Детектив Владимира Фетина «ПРОПАВШИЕ СРЕДИ ЖИВЫХ». 1981 г.
**11.55** Марафон премьер на канале «Наше кино». Лирическая комедия Олега Янковского и Михаила Аграновича «ПРИХОДИ НА МЕНЯ ПОСМОТРЕТЬ...» 2001 г.
**13.35** Памяти Анатолия Ромашина. Алексей Петренко, Анатолий Ромашин, Велта Лине, Алиса Фрейндлих и Александр Романцов в исторической драме Элема Климова «АГОНИЯ». 2 серии. 1974 - 1981 гг.
**16.00** Сериал «ДЖЕК ВОСЬМЕРКИН - «АМЕРИКАНЕЦ». Режиссер Евгений Татарский. В ролях: Александр Кузнецов, Любовь Малиновская, Ирина Ракшина, Лев Дуров. 1-я серия. 1987 г.
**17.05** Мультфильм «ВСТРЕЧА». 1984 г.
**17.15** Месяц с Евгением Леоновым. Евгений Леонов и Людмила Чурсина в фильме Владимира Фетина «ДОНСКАЯ ПОВЕСТЬ». 1964 г.
**18.50** Василий Бочкарев, Евгения Глушенко, Иннокентий Смоктуновский, Станислав Садальский и Галина Волчек в комедии Виталия Мельникова «УНИКУМ». 1983 г.
**20.15** Дело №... Алексей Баталов, Леонид Оболенский, Георгий Тараторкин, Эугения Плешките, Иван Переверзев и Ирина Муравьева в детективе Самсона Самсонова «ЧИСТО АНГЛИЙСКОЕ УБИЙСТВО». 2 серии. 1974 г.
**22.55** Завтра в программе.
**23.00** Алексей Краснопольский, Анатолий Горюнов и Василий Меркурьев в киноповести Александра Файнциммера «ТАНКЕР «ДЕРБЕНТ». 1941 г.

### МИР КИНО

**9.30** Сегодня в программе.
**9.35** Николас Кейдж в мелодраме Чарльза Джерротта «ПОВЕЛИТЕЛЬ ВОЛН» (Канада).
**11.10** Жан-Клод Ван Дамм в приключенческом боевике Питера МакДоналда «ЛЕГИОНЕР» (США). Д-17.
**12.50** Мачей Штур, Агнешка Крукувна и Януш Гайос в романтической комедии Мачея Дуткевича «НА ДУРАЧКА» (Польша). Д-17.
**14.15** Джеймс Маршалл и Кристина Эпплгейт в драме Майкла Пасернека «ВИБРАЦИИ» (США). Д-17.
**16.00** Мэтт МакКой и Гленн Пламмер в боевике «РЕЙНДЖЕРЫ» (США). Д-17.
**17.40** Виктор Гербер в драме Дэвида Грина «ЛИБЕРЕЙС. ВТАЙНЕ ОТ МУЗЫКИ» (США). Д-17.
**19.15** Николас Кейдж в мелодраме Чарльза Джерротта «ПОВЕЛИТЕЛЬ ВОЛН» (Канада).
**20.55** Антуан де Кон и Валентина Варгас в комедии Тома Жилу «ОСТРОЕ БЛЮДО» (Франция). Д-17.
**22.35 -0.10** Ник Манкузо, Эндрю Дивофф и Линда Хоффман в триллере Питера Ляписа «ЛОВУШКА» (США). Д-17.

### СПОРТ

**9.00** «Пресс-центр»
**9.15** Аэробика
**9.40** «Шахматное обозрение»
**10.10** Супербайк. Этап чемпионата мира в Англии
**11.10** Вольная борьба. Мемориал И. Ярыгина. Передача из Красноярска
**12.10** «Пресс-центр»
**12.25** Аэробика
**12.50** Чемпионат России по воздухоплаванию в Великих Луках
**13.25** Фестиваль боевых искусств в Цирке на Цветном бульваре
**14.45** «Пресс-центр»
**15.00** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Передача из Канады. В перерыве (18.00) - «Пресс-центр»
**19.30** Хроника недели
**20.00** Программа передач на завтра
**20.05** «Железный фактор». Тележурнал
**20.35** Баскетбольное обозрение WNBA
**21.00** Обсуждаем чемпионат мира по легкой атлетике
**22.00** Кольцевые автогонки. Чемпионат мира среди спортивных автомобилей. Передача из Чехии
**22.55** «Без тормозов»
**23.15** Новости
**23.30** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Прямая трансляция из Канады

## Аўторак, 7

### НАШЕ КИНО

**9.00** Сегодня в программе.
**9.05** Сериал «ДЖЕК ВОСЬМЕРКИН - «АМЕРИКАНЕЦ». Режиссер Евгений Татарский. В ролях: Александр Кузнецов, Любовь Малиновская, Ирина Ракшина, Лев Дуров. 1-я серия. 1987 г.
**10.10** Мультфильм «Встреча».
**10.20** Месяц с Евгением Леоновым. Евгений Леонов и Людмила Чурсина в фильме Владимира Фетина «ДОНСКАЯ ПОВЕСТЬ». 1964 г.
**11.55** Василий Бочкарев, Евгения Глушенко, Иннокентий Смоктуновский, Станислав Садальский и Галина Волчек в комедии Виталия Мельникова «УНИКУМ». 1983 г.
**13.20** Дело №... Алексей Баталов, Леонид Оболенский, Георгий Тараторкин, Эугения Плешките, Иван Переверзев и Ирина Муравьева в детективе Самсона Самсонова «ЧИСТО АНГЛИЙСКОЕ УБИЙСТВО». 2 серии. 1974 г.
**16.00** Сериал «ДЖЕК ВОСЬМЕРКИН - «АМЕРИКАНЕЦ». 2-я серия.
**17.05** Олег Жаков в киноповести Михаила Богина «ИЩУ ЧЕЛОВЕКА». 1973 г.
**18.40** Черно-белое золото. Алексей Грибов, Зоя Федорова, Лилия Алешникова и Александр Демьяненко в комедии Виллена Азарова «ВЗРОСЛЫЕ ДЕТИ». 1961 г.
**19.55** ДЕЛО №... Петр Вельяминов, Галина Польских и Алексей Жарков в детективе Вениамина Дормана «НОЧНОЕ ПРОИСШЕСТВИЕ». 1980 г.
**21.25** Михаил Ульянов, Инна Чурикова, Евгений Весник и Станислав Любшин в кинодраме Глеба Панфилова «ТЕМА».
**23.00** Завтра в программе.
**23.05** Кино-журнал. «Игорь Ильинский. Сам о себе».
**23.20** Лекарство против стресса. Анатолий Кторов и Игорь Ильинский в эксцентрической комедии Якова Протазанова «ПРАЗДНИК СВЯТОГО ЙОРГЕНА». 1930 г.

### МИР КИНО

**9.30** Сегодня в программе.
**9.35** Дэниэл Стерн, Джон Полито и Брэд Салливан в комедии Грэга Бимена «БРОДЯГА» (США). Д-17.
**11.05** Мэтт МакКой и Гленн Пламмер в боевике «РЕЙНДЖЕРЫ» (США). Д-17.
**12.45** Виктор Гербер в драме Дэвида Грина «ЛИБЕРЕЙС. ВТАЙНЕ ОТ МУЗЫКИ» (США). Д-17.
**14.15** Ник Манкузо, Эндрю Дивофф и Линда Хоффман в триллере Питера Ляписа «ЛОВУШКА» (США). Д-17.
**15.50** Крейг Шеффер, Брюс МакГилл и Джеймс Руссо в остросюжетном фильме Родни МакДональда «ГЛУБОКОЕ ПОГРУЖЕНИЕ» (США). Д-17.
**17.20** Дэниэл Стерн, Джон Полито и Брэд Салливан в комедии Грэга Бимена «БРОДЯГА» (США). Д-17.
**18.50** Эва Шикульска и Хенрик Таляр в детективе Эвы и Чеслава Петельских «КТО ЭТОТ ЧЕЛОВЕК» (Польша).
**20.20** Эрик Штольц, Дэрил Ханна и Кэмпбелл Скотт в романтической комедии Роджера Хеддена «ВЕСЕЛАЯ ЖИЗНЬ» (США). Д-17.
**21.45** Хавьер Бардем, Хорди Мойя, Ариадна Гил и Сесилия Рот в драме «ВТОРАЯ КОЖА» (Испания). Д-17. Премьера.
**23.25 -0.50** Дэниэл Болдуин и Лесли Хоуп в триллере «НЕТ СЛЕДОВ НА ВОДЕ» (США).

### СПОРТ

**9.00** «Пресс-центр»
**9.15** Аэробика
**9.40** Хроника недели
**10.10** Спортивная гимнастика. Кубок России. Многоборье. Мужчины.
Женщины. В перерыве (12.00) - «Пресс-центр»
**14.10** «Пресс-центр»
**14.25** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Передача из Канады. В перерыве (18.00) - «Пресс-центр»
**19.00** «Звездный вторник»
**20.00** Программа передач на завтра
**20.05** Гонки на катерах. Чемпионат мира в классе 1. Передача из Германии
**20.30** «Шахматное обозрение»
**21.00** Обсуждаем чемпионат мира по легкой атлетике
**22.00** Международная гонка на надувных лодках с подвесными моторами
«24 часа Санкт-Петербурга». В перерыве (23.00) Новости
**0.05** «Железный фактор». Тележурнал
**0.35** Супербайк. Этап чемпионата мира в Англии
**1.30** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Прямая трансляция из Канады

## Серада, 8

### НАШЕ КИНО

**9.00** Сегодня в программе.
**9.05** Сериал «ДЖЕК ВОСЬМЕРКИН - «АМЕРИКАНЕЦ». 2-я серия.
**10.10** Олег Жаков в киноповести Михаила Богина «ИЩУ ЧЕЛОВЕКА». 1973 г.
**11.40** Черно-белое золото. Алексей Грибов, Зоя Федорова, Лилия Алешникова и Александр Демьяненко в комедии Виллена Азарова «ВЗРОСЛЫЕ ДЕТИ». 1961 г.
**12.55** Дело №... Петр Вельяминов, Галина Польских и Алексей Жарков в детективе Вениамина Дормана «НОЧНОЕ ПРОИСШЕСТВИЕ». 1980 г.
**14.25** Михаил Ульянов, Инна Чурикова, Евгений Весник и Станислав Любшин в кинодраме Глеба Панфилова «ТЕМА». 1979 г.
**16.00** Сериал «ДЖЕК ВОСЬМЕРКИН - «АМЕРИКАНЕЦ». 3-я серия.
**17.10** Юрий Яковлев, Юлия Борисова, Никита Подгорный, Вера Пашенная и Сергей Мартинсон в киноромане Ивана Пырьева «ИДИОТ». 1958 г.
**19.10** Киносреда. Наши соседи. Олег Меньшиков, Леонид Броневой, Анатолий Равикович, Елена Коренева и Инна Ульянова в лирической комедии Михаила Козакова «ПОКРОВСКИЕ ВОРОТА». 2 серии. 1982 г.
**21.30** Месяц с Евгением Леоновым. Евгений Леонов в детективной киноповести Григория Аронова и Владимира Шределя «ДЛИННОЕ, ДЛИННОЕ ДЕЛО». 1976 г.
**23.00** Завтра в программе.
**23.05** Юрий Толубеев в кинодраме Григория Козинцева и Леонида Трауберга «ПРОСТЫЕ ЛЮДИ». 1945 г.

### МИР КИНО

**9.30** Сегодня в программе.
**9.35** Дэнни Де Вито, Гэри Синиз, Роберт Джей Стейнмиллер-мл. и Мико Хьюз в драме Маршалла Херсковица «ДЖЕК-МЕДВЕЖОНОК» (США). Д-17.
**11.10** Дэниэл Болдуин и Лесли Хоуп в триллере «НЕТ СЛЕДОВ НА ВОДЕ» (США). Д-17.
**12.35** Эрик Штольц, Дэрил Ханна и Кэмпбелл Скотт в романтической комедии Роджера Хеддена «ВЕСЕЛАЯ ЖИЗНЬ» (США). Д-17.
**14.00** Эва Шикульска и Хенрик Таляр в детективе Эвы и Чеслава Петельских «КТО ЭТОТ ЧЕЛОВЕК» (Польша). Д-17.
**15.30** Хавьер Бардем, Хорди Мойя, Ариадна Гил и Сесилия Рот в драме «ВТОРАЯ КОЖА» (Испания). Д-17.
**17.15** Дэнни Де Вито, Гэри Синиз, Роберт Джей Стейнмиллер-мл. и Мико Хьюз в драме Маршалла Херсковица «ДЖЕК-МЕДВЕЖОНОК» (США). Д-17.
**18.55** Дэниэл Болдуин, Пенелопа Энн Миллер и Ким Коутс в остросюжетном фильме Джона Брэдшоу «ЛУНА-УБИЙЦА» (США). Д-17.
**20.25** Мун Ли в боевике Джонни Вонга «МИССИЯ СПРАВЕДЛИВОСТИ» (Гонконг). Д-17.
**21.50** Натали Бэй, Бюль Ожье, Матильда Сенье и Одри Тату, а также Робер Оссейн в мелодраме Тони Маршалл «САЛОН КРАСОТЫ «ВЕНЕРА» (Франция). Д-17.
**23.35 -1.00** Дэвид Кэррадайн в фантастическом боевике Фреда Олена Рэя «ПОЛКОВОДЦЫ 3000» (США). Д-17.

### СПОРТ

**9.00** «Пресс-центр»
**9.15** Аэробика
**9.40** Спортивная гимнастика. Чемпионат России. Мужчины. Женщины. Финал в отдельных видах многоборья.
**12.00** «Пресс-центр»
**12.15** «Звездный вторник»
**13.15** Международная гонка на надувных лодках с подвесными моторами «24 часа Санкт-Петербурга».
**15.05** «Пресс-центр»
**15.20** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Передача из Канады. В перерыве (18.00) - «Пресс-центр»
**20.10** «Пресс-центр»
**20.25** Программа передач на завтра
**20.30** «Гольф». Тележурнал
**21.00** Обсуждаем чемпионат мира по легкой атлетике
**22.00** Тайский бокс. Профессиональные бои в КРЦ «Арбат»
**23.00** Новости
**23.15** «Гольф». Тележурнал

## Чацвер, 9

### НАШЕ КИНО

**9.00** Сегодня в программе.
**9.05** Сериал «ДЖЕК ВОСЬМЕРКИН - «АМЕРИКАНЕЦ». 3-я серия.
**10.15** Юрий Яковлев, Юлия Борисова, Никита Подгорный, Вера Пашенная и Сергей Мартинсон в киноромане Ивана Пырьева «ИДИОТ». 1958 г.
**12.15** Лекарство против стресса. Олег Меньшиков, Леонид Броневой, Анатолий Равикович, Елена Коренева и Инна Ульянова в лирической комедии Михаила Козакова «ПОКРОВСКИЕ ВОРОТА». 2 серии. 1982 г.
**14.30** Месяц с Евгением Леоновым. Евгений Леонов в детективной киноповести Григория Аронова и Владимира Шределя «ДЛИННОЕ, ДЛИННОЕ ДЕЛО». 1976 г.
**16.00** Людмила Зайцева, Сережа Амосов, Геннадий Воронин и Алексей Ванин в киноповести Рениты и Юрия Григорьевых «ПРАЗДНИКИ ДЕТСТВА». 1981 г.
**17.25** Андрей Мягков и Елена Майорова в киноновелле Николая Досталя «ОЖИДАЮТСЯ ПОХОЛОДАНЬЕ И СНЕГ». 1981 г.
**17.55** Лекарство против стресса. Наталья Варлей, Гунар Цилинский, Майя Менглет, Георгий Вицин, Сергей Мартинсон, Евгений Моргунов и Савелий Крамаров в музыкальной комедии Виктора Георгиева «БОЛЬШОЙ АТТРАКЦИОН». 1974 г.
**19.15** Дело №... Николай Волков-мл., Александр Абдулов и Надежда Павлова в детективе Игоря Усова «СИЦИЛИАНСКАЯ ЗАЩИТА». 1980 г.
**20.45** Трагикомедия Эльдара Рязанова «ЗАБЫТАЯ МЕЛОДИЯ ДЛЯ ФЛЕЙТЫ». 2 серии. 1987 г.
**22.55** Завтра в программе.
**23.00** Черно-белое золото. Вера Марецкая в киноповести Александра Зархи и Иосифа Хейфица «ЧЛЕН ПРАВИТЕЛЬСТВА». 1939 г.

### МИР КИНО

**9.30** Сегодня в программе.
**9.35** Дэниэл Пайлон и Питер Биллингсли в комедии Харви Харта «МАССАРАТИ И ЕГО «МОЗГ» (США). С.
**11.05** Дэниэл Болдуин, Пенелопа Энн Миллер и Ким Коутс в остросюжетном фильме Джона Брэдшоу «ЛУНА-УБИЙЦА» (США). Д-17.
**12.30** Натали Бэй, Бюль Ожье, Матильда Сенье и Одри Тату, а также Робер Оссейн в мелодраме Тони Маршалл «САЛОН КРАСОТЫ «ВЕНЕРА» (Франция). Д-17.
**14.15** Мун Ли в боевике Джонни Вонга «МИССИЯ СПРАВЕДЛИВОСТИ» (Гонконг). Д-17.
**15.40** Расселл Кроу и Юуки Кудо в криминальной драме «НЕБЕСА В ОГНЕ» (Австралия). Д-17.
**17.20** Дэниэл Пайлон и Питер Биллингсли в комедии Харви Харта «МАССАРАТИ И ЕГО «МОЗГ» (США). С.
**18.55** Дэниэл Бернхардт в боевике «КРОВАВЫЙ СПОРТ. ЧЕРНОЕ КУМИТЭ» (США). Д-17.
**20.30** Энтони Хопкинс, Клиф Де Янг и Мартин Болсам в драме «ДЕЛО О ПОХИЩЕНИИ ЛИНДБЕРГОВ» (США). Д-17.
**22.55 -0.30** Шон Янг, Роберт Вон и Сеймур Кассель в триллере Сэма Фирстенберга «ОТЕЛЬ СТРАСТИ» (США). Д-17.

### СПОРТ

**2.55** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Прямая трансляция из Канады. По окончании трансляции в программе перерыв до 9.00
**9.00** «Пресс-центр»
**9.15** Аэробика
**9.40** Художественная гимнастика. Международные соревнования «Кубок
чемпионок - Газпром». В перерыве (12.00) - «Пресс-центр»
**12.55** Аэробика
**13.20** Тайский бокс. Профессиональные бои в КРЦ «Арбат»
**14.15** «Гольф». Тележурнал
**14.45** Гонки на катерах. Чемпионат мира в классе1. Передача из Германии.
**15.15** «Пресс-центр»
**15.30** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Передача из Канады. В перерыве (18.00) - «Пресс-центр»
**20.00** «Пресс-центр»
**20.15** Программа передач на завтра
**20.20** «Мир скорости». Тележурнал
**21.00** Обсуждаем чемпионат мира по легкой атлетике
**22.00** Кругосветная парусная гонка «Global Challenge». Передача 7-я
**23.00** Новости
**23.15** «Мир скорости». Тележурнал

## Пятніца, 10

### НАШЕ КИНО

**9.00** Сегодня в программе.
**9.05** Людмила Зайцева, Сережа Амосов, Геннадий Воронин и Алексей Ванин в киноповести Рениты и Юрия Григорьевых «ПРАЗДНИКИ ДЕТСТВА». 1981 г.
**10.30** Андрей Мягков и Елена Майорова в киноновелле Николая Досталя «ОЖИДАЮТСЯ ПОХОЛОДАНЬЕ И СНЕГ». 1981 г.
**11.00** Лекарство против стресса. Наталья Варлей, Гунар Цилинский, Майя Менглет, Георгий Вицин, Сергей Мартинсон, Евгений Моргунов и Савелий Крамаров в музыкальной комедии Виктора Георгиева «БОЛЬШОЙ АТТРАКЦИОН». 1974 г.
**12.20** Дело №... Николай Волков-мл., Александр Абдулов и Надежда Павлова в детективе Игоря Усова «СИЦИЛИАНСКАЯ ЗАЩИТА». 1980 г.
**13.50** Леонид Филатов, Татьяна Догилева, Ирина Купченко, Валентин Гафт и Александр Ширвиндт в трагикомедии Эльдара Рязанова «ЗАБЫТАЯ МЕЛОДИЯ ДЛЯ ФЛЕЙТЫ». 2 серии. 1987 г.
**16.00** Светлана Смирнова и Андрис Лиелайс в мелодраме Владимира Григорьева «С ТЕХ ПОР, КАК МЫ ВМЕСТЕ». 1982 г.
**17.25** Питер Финч, Шон Коннери, Клаудиа Кардинале и Эдуард Марцевич в историко-приключенческом фильме Михаила Калатозова «КРАСНАЯ ПАЛАТКА». 2 серии. СССР - Италия. 1969 г.
**19.55** Месяц с Евгением Леоновым. Евгений Леонов, Георгий Вицин, Савелий Крамаров и Раднэр Муратов в эксцентрической комедии Александра Серого «ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ». 1971 г.
**21.20** + Интервью.
**21.40** Валерий Гаркалин и Елена Сафонова в криминальной драме Сергея Бодрова «КАТАЛА». 1989 г. Д-17.
**22.55** Завтра в программе.
**23.00** Алеша Зотов, Валерий Яременко, Ирина Розанова и Сергей Колтаков в музыкальном фильме Владимира Грамматикова «ПРИВЕТ ОТ ЧАРЛИ-ТРУБАЧА». 1998 г.

### МИР КИНО

**9.30** Сегодня в программе.
**9.35** Леонардо Ди Каприо, Клэр Дэйнс и Брайан Деннехи в фильме Бэза Лурмана «РОМЕО + ДЖУЛЬЕТТА» (США).
**11.35** Расселл Кроу и Юуки Кудо в криминальной драме «НЕБЕСА В ОГНЕ» (Австралия). Д-17.
**13.10** Календарь «Мира кино». Антонио Бандерас.
**13.30** Дэниэл Бернхардт в боевике «КРОВАВЫЙ СПОРТ. ЧЕРНОЕ КУМИТЭ» (США).
**15.00** Энтони Хопкинс, Клиф Де Янг и Мартин Болсам в драме «ДЕЛО О ПОХИЩЕНИИ ЛИНДБЕРГОВ» (США). Д-17.
**17.25** Леонардо Ди Каприо, Клэр Дэйнс и Брайан Деннехи в фильме Бэза Лурмана «РОМЕО + ДЖУЛЬЕТТА» (США).
**19.25** Календарь «Мира кино». Антонио Бандерас.
**19.40** Антонио Бандерас, Вуди Харрельсон, Лолита Давидович, Том Сайзмор и Люси Лиу в остросюжетном фильме Рона Шелтона «БЕЙ В КОСТЬ» (США). Д-17.
**21.45** Кэрол Барнетт и Ллойд Бриджес в драме «ЖИЗНЬ ПАРТИИ. ИСТОРИЯ БЕАТРИС» (США). Д-17.
**23.20 -1.10** Изабель Цир и Робер Брулле в фильме ужасов Габриэля Пеллетье «КАРМИНА» (Канада). Д-17.

### СПОРТ

**2.55** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Прямая трансляция из Канады
**8.30** «Мир скорости». Тележурнал.
**9.00** «Пресс-центр»
**9.15** Аэробика
**9.40** Художественная гимнастика. Международные соревнования «Гран-При - Москва-2001".
**11.55** «Пресс-центр»
**12.10** Аэробика
**12.35** Кругосветная парусная гонка «Global Challenge». Передача 7-я
**13.30** «Мир скорости». Тележурнал.
**14.00** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Передача из Канады. В перерывах (15.00), (18.00) - «Пресс-центр»
**20.00** «Пресс-центр»
**20.15** Программа передач на завтра.
**20.20** «Короли бильярда»
**21.00** Обсуждаем чемпионат мира по легкой атлетике
**22.00** «Тайский бокс»
**23.00** Новости
**23.15** «Щит и мяч» представляет. «Уральские Маргариты».

## Субота, 11

### НАШЕ КИНО

**9.00** Сегодня в программе.
**9.05** Мелодрама Владимира Григорьева «С ТЕХ ПОР, КАК МЫ ВМЕСТЕ». 1982г.
**10.30** Историко-приключенческий фильме Михаила Калатозова «КРАСНАЯ ПАЛАТКА». 2 серии. СССР - Италия. 1969г.
**13.00** Месяц с Евгением Леоновым. Эксцентрическая комедии Александра Серого «ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ». 1971 г.
**14.25** + Интервью.
**14.45** Валерий Гаркалин и Елена Сафонова в криминальной драме Сергея Бодрова «КАТАЛА». 1989 г. Д-17.
**16.00** Константин Кинчев и Олег Елыкомов в кинодраме Валерия Огородникова «ВЗЛОМЩИК». 1986 г.
**17.25** Мультфильм «Не в шляпе счастье». 1968 г.
**17.40** Андрис Жагарс, Андрей Миронов, Юрий Авшаров, Анастасия Немоляева и Эммануил Виторган в приключенческом фильме Павла Любимова «СЛЕДОПЫТ». 1987 г.
**19.10** Комаки Курихара и Олег Видов в мелодраме Александра Митты «МОСКВА, ЛЮБОВЬ МОЯ «. СССР - Япония. 1974 г.
**20.40** Беседы о кино. Режиссер Геннадий Полока.
**21.10** Владимир Высоцкий, Валерий Золотухин, Ольга Аросева и Ефим Копелян в трагикомедии Геннадия Полоки «ИНТЕРВЕНЦИЯ». 1968 г.
**22.55** Завтра в программе.
**23.00** Человек с ружьем. Мамука Кикалейшвили в боевике Равшана Откирова «НУЛЕВОЙ ВАРИАНТ». Узбекистан. 1992 г. Д-13.

### МИР КИНО

**9.30** Сегодня в программе.
**9.35** Дом Де Луиз и Энн Бэнкрофт в комедии «ТОЛСТЯК» (США). Д-17.
**11.05** Изабель Цир и Робер Брулле в фильме ужасов Габриэля Пеллетье «КАРМИНА» (Канада). Д-17.
**13.00** Антонио Бандерас, Вуди Харрельсон, Лолита Давидович, Том Сайзмор и Люси Лиу в остросюжетном фильме Рона Шелтона «БЕЙ В КОСТЬ» (США). Д-17.
**15.00** Кэрол Барнетт и Ллойд Бриджес в драме «ЖИЗНЬ ПАРТИИ. ИСТОРИЯ БЕАТРИС» (США). Д-17.
**16.35** Джефф Голдблюм и Джули Хагерти в комедии Роберта Олтмена «НЕИЗЛЕЧИМЫЕ» (США). Д-17.
**18.10** Джефф Фейи, Майкл Мэдсен и Гэри Бьюзи в боевике Джои Траволты «ОБХОД» (США). Д-17.
**19.40** Дом Де Луиз и Энн Бэнкрофт в комедии «ТОЛСТЯК» (США). Д-17.
**21.15** Каспер Ван Дин в боевике Сиднея Фьюри «ПОГОНЯ ЗА СМЕРТЬЮ» (США). Д-17.
**22.50** Романа Боринже, Оливье Мартинес и Айтана Санчес-Гихон в мелодраме «ГОРНИЧНАЯ С «ТИТАНИКА» (Франция - Италия - ФРГ - Испания).
**0.25 -1.50** Кэтрин МакКолл и Дэвид Уорбек в фильме ужасов Лючио Фульчи «СЕДЬМЫЕ ВРАТА АДА» (Италия).

### СПОРТ

**4.10** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Прямая трансляция из Канады
**8.00** Кругосветная парусная гонка «Global Challenge». Передача 7-я
**9.00** «Пресс-центр»
**9.15** Аэробика
**9.40** «Мир скорости». Тележурнал
**10.25** Современное пятиборье. Кубок мира. Финал. Женщины. Фехтование. Стрельба. Прямая трансляция из Москвы.
**13.00** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Передача из Канады.
**15.10** «Пресс-центр»
**15.25** Современное пятиборье. Кубок мира. Финал. Женщины. Плавание.
Конкур. Прямая трансляция
**16.55** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Ходьба. Мужчины. 50 км. Прямая трансляция.
**17.30** Баскетбольное обозрение WNBA.
**17.55** Современное пятиборье. Кубок мира. Финал. Женщины. Кросс. Прямая трансляция.
**18.35** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Передача из Канады.
**19.50** «Пресс-центр»
**20.05** Программа передач на завтра.
**20.10** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Ходьба. Мужчины. 50 км. Прямая трансляция.
**21.00** Обсуждаем чемпионат мира по легкой атлетике
**22.00** «Тайский бокс»
**22.55** Новости.
**23.10** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Прямая трансляция из Канады.

## Нядзеля, 12

### НАШЕ КИНО

**9.00** Сегодня в программе.
**9.05** Кинодрама Валерия Огородникова «ВЗЛОМЩИК».
**10.30** Мультфильм «Не в шляпе счастье». 1968 г.
**10.45** Приключенческий фильме Павла Любимова «СЛЕДОПЫТ». 1987 г.
**12.15** Комаки Курихара и Олег Видов в мелодраме Александра Митты «МОСКВА, ЛЮБОВЬ МОЯ «. СССР - Япония. 1974 г.
**13.45** Беседы о кино. Режиссер Геннадий Полока.
**14.15** Владимир Высоцкий, Валерий Золотухин, Ольга Аросева и Ефим Копелян в трагикомедии Геннадия Полоки «ИНТЕРВЕНЦИЯ». 1968 г.
**16.00** Месяц с Евгением Леоновым. Олег Янковский, Александр Абдулов, Евгения Симонова, Евгений Леонов, Ирина Купченко и Андрей Миронов в музыкальной сказке Марка Захарова «ОБЫКНОВЕННОЕ ЧУДО». 2 серии. 1978 г.
**18.20** Кинокалендарь. К юбилею режиссера Ивана Лукинского. Михаил Жаров, Татьяна Пельтцер, Роман Ткачук и Лидия Смирнова в фильме Ивана Лукинского «ДЕРЕВЕНСКИЙ ДЕТЕКТИВ». 1968 г.
**19.45** Комедия Эльдара Рязанова «НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ИТАЛЬЯНЦЕВ В РОССИИ».
**21.25** Музыкальная киноповесть Петра Тодоровского «ПО ГЛАВНОЙ УЛИЦЕ С ОРКЕСТРОМ». 1986 г.
**22.55** Завтра в программе.
**23.00** Олег Басилашвили и Людмила Касаткина в комедии Сергея Колосова «СУДЬЯ В ЛОВУШКЕ». 1998 г.

### МИР КИНО

**9.30** Сегодня в программе.
**9.35** Фантастический триллере Рэйчел Талалей «ПРИЗРАК В МАШИНЕ».
**11.10** Джефф Голдблюм и Джули Хагерти в комедии Роберта Олтмена «НЕИЗЛЕЧИМЫЕ».
**12.40** Джефф Фейи, Майкл Мэдсен и Гэри Бьюзи в боевике Джои Траволты «ОБХОД».
**14.05** Каспер Ван Дин в боевике Сиднея Фьюри «ПОГОНЯ ЗА СМЕРТЬЮ» (США). Д-17.
**15.40** Тьерри Лермитт, Готье Кушнерек, Ариэль Домбаль и Жак Перрен в комедии «Я НЕ ВИНОВАТ» (Франция). Д-17.
**17.15** Марина Сума и Ричард Хэтч в триллере Стэнли Флоренси «В СУМРАКЕ БАРА».
**18.55** Тим Роббинс, Стивен Джеффрис и Шири Джей Уилсон в романтической комедии Джеймса Фроли «БЕЗУМНОЕ ПАРИ» (США). Д-17.
**20.25** Карен Аллен, Крис Малки и Тед Марко в фантастическом триллере Рэйчел Талалей «ПРИЗРАК В МАШИНЕ».
**22.00** Artобстрел. Збигнев Запасевич, Кристина Янда, Ежи Радзивилович и Шимон Бобровский в драме Кшиштофа Занусси «ЖИЗНЬ КАК СМЕРТЕЛЬНАЯ БОЛЕЗНЬ, ПЕРЕДАЮЩАЯСЯ ПОЛОВЫМ ПУТЕМ» (Польша - Франция).
**23.40** Майкл Гросс, Дэвид Хессельхофф и Динна Миллиган в триллере Пола Шапиро «ЛАВИНА» (Канада-США). Д-17.
**1.10** Программа передач на неделю.

### СПОРТ

**9.00** «Пресс-центр»
**9.15** Аэробика
**9.40** Гонки на катерах. Чемпионат мира в классе 1. Передача из Германии.
**10.25** Современное пятиборье. Кубок мира. Финал. Мужчины. Фехтование. Стрельба. Прямая трансляция из Москвы.
**13.00** «Пресс-центр»
**13.15** Аэробика.
**13.40** «Без тормозов»
**13.55** Современное пятиборье. Кубок мира. Финал. Мужчины. Плавание.
Прямая трансляция
**14.30** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Передача из Канады.
**16.40** «Пресс-центр»
**16.55** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Марафон. Женщины. Прямая трансляция .
**17.20** Современное пятиборье. Кубок мира. Финал. Мужчины. Конкур.
**18.05** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Марафон. Женщины. Прямая трансляция.
**20.00** «Пресс-центр»
**20.15** Программа передач на завтра.
**20.20** Современное пятиборье. Кубок мира. Финал. Мужчины. Кросс.
**21.00** Обсуждаем чемпионат мира по легкой атлетике
**22.00** «Шахматное обозрение»
**22.30** Баскетбольное обозрение WNBA.
**22.55** Новости.
**23.10** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Прямая трансляция.

# РЭКЛАМА Тэлефоны: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

- 3-пакаёвую кватэру і гараж у г.п.Воранава. Тэл. у Гродне: 5-12-15.
- Катэдж ў раёне Чэхаўшчызна без унутранага аздаблення. Тэрмінова. Тэл. 5-23-83.
- Аўтамабіль ГАЗ-24 (аб'ём рухавіка - 3000 куб.см). Танна. Тэл. (8-213) 2-23-52 (увечары).

Багажнік, чахлы і запчасткі М-412. Тэл. 74-37-16.

- Калекцыю савецкіх і расейскіх манетаў, спартовыя гантэлі, тры плафоны для электрычных лямпачак у санвузел, лекавы пояс ад астэахандрозу, макулатуру. Тэл. 6-69-65 (пасля 18.00).
- Гаражныя вароты. Тэрмінова. Танна. Магчымы гандаль. Тэл. 5-23-83.
- Мужчынскія касцюмы (танна), мужчынскія туфлі (п.41,54), два паўтарачныя (1,5) ложкі (кошт - 15 у.а.), рогі лася. Тэл. 33-79-95.
- Аднаспальную тахту (б/у, у вельмі добрым стане). Кошт - 70 у.а. Тэл. 44-69-75.
- Новую нямецкую электрадрэль з перфаратарам. Кошт - 50 тысяч рублёў альбо 37 у.а. Тэл. 44-69-75.
- Аўтакунг (аўтабудку) у якасці летніка (самавываз) альбо разам з зямельным надзелам (10 сотак). Кошт аўтакунга - 180-200 у.а. Тэл. 44-69-75.
- Байдарку, фотаапарат «Зеніт», свідравальны станок, электратачыла. Тэл. у Слоніме: 2-38-20.
- Фаеркі ды пераключальнікі да электраплітаў, балконныя рамы. Тэл. 2-76-97.
- Металічную цяпліцу пад шкло. Тэл. 75-33-55.
- CD Вольныя танцы «Новая альтэрнатыва», «Музычны часопіс» А1. Звяртацца на адрас: 225710, г.Пінск-1, а/с 31.
- Акустычную сістэму 10 АС, 25 АС, С-90, эквалайзер «Прыбой», узмацняльнікі «Электроніка», «Вега-119» відэамагнітафон «Электроніка ВМ-12». Тэл. 47-00-16 (пасля 18.00).
- Формы для вырабу тратуарнай пліткі «пол-брук» (800 адзінак). Танна. Тэл. у Беластоку: (4885) 743-46-57.
- Сачыненні: 10-томнік А.С.Пушкіна, 16-томнік А.М. Горкага, 12-томнік Л.М.Талстога, 8-томнік М.А.Шолахава. Тэл. 99-57-38 (пасля 20.00).
- Кнігі па эканоміцы, падручнікі па замежных мовах, слоўнікі. Танна. Тэл. 31-49-70.
- Кухню, мяккую мэблю, канапу, якая раскладваецца наперад. Усё новае. Танна. Магчымы гандаль. Тэл. 31-23-27.
- Карычневую дзвюхфаеркавую газавую пліту (б/у). Танна. Тэл. 72-63-27.

## КУПЛЮ

- Бітум, цэмент, мінеральную вату, пенапласт. Тэл. 74-06-84.
- Якар да рухавіка электрапілы ІЭ-5607. Тэл.76-53-45.
- Літаратуру па міталогіі, культуры і побыце славянаў. Звяртацца: 225710, г.Пінск-1, а/с 31.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

## МЯНЯЮ

- 2-пакаёвую кватэру ў Пружанах (Берасцейская вобласць) на 1-пакаёвую ў Гродне. Тэл. у Гродне: 2-11-48 (пасля 17.00).

## ПАСЛУГІ

- Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, ДК, тэлетэксту. Ліц.1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.
- Піламатэрыялы пад заказ. Ліц.N003039, выдадзеная Міністэрствам лясной гаспадаркі да 2005 года.
- Метадычная дапамога пры самастойным вывучэнні ангельскай, французскай, італійскай і нямецкай моваў; іншыя паслугі, звязаныя з ужываннем гэтых моваў. Тэл. 33-10-58.
- Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц.N224, выдадзеная МЗ РБ да 30.12.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

ДОКТАР СЯРГЕЙ УЛАДЗІМІРАВІЧ КАЛЯДА
Інтэнсіўная псіхатэрапія АЛКАГАЛІЗМУ, ЗАЛІШНЯЙ ВАГІ,
**КУРЭННЯ.**
Найноўшыя методыкі.
Тэл. 74-35-46 да 18.00
(Ліц. N796 да 2004 года, МЗ РБ).

- Абарона ў Гаспадарчым судзе. Ліц. N932, выдадзеная МЮ РБ да 2005 года. Тэл. 33-68-47.
- Дзіцячы і сямейны адпачынак у Чэхіі і Балгарыі. Самыя нізкія кошты. Ліц. N185, выдадзеная Міністэрствам спорту і турызму Рэспублікі Беларусь да 2005 года. Тэл. 33-94-45 (пасля 16.00, запрасіць Ларысу).
- Рэпетытарства па матэматыцы (школьны курс). Тэл. 72-22-77.
- Хімія: кантрольныя работы і рэпетытарства. Тэл. 72-94-02.
- Хімія: кантрольныя работы і рэпетытарства. Тэл. 33-24-03.
- Французская мова: кантрольныя работы і пераклады (хутка), індывідуальныя заняткі. Тэл. 31-50-58.
- Рэпетытарства па ангельскай мове. Дасведчаны высокакваліфікаваны педагог. Тэл. 72-62-79.
- Французская мова: пераклады, кантрольныя работы, рэпетытарства. Тэл. 31-44-74 (пасля 19.00).
- Кантрольныя работы па лацінскай, рускай, стараславянскай мовах, па гісторыі рускай літаратурнай мовы. Тэл. 33-69-28.

Рэпетытарства, кантрольныя па матэматыцы і фізіцы. Тэл. 72-58-53.

- Польская, балгарская і беларуская мовы. Тэл. 2-85-77.
- Рэпетытарства па ангельскай і нямецкай мовах. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).
- Ангельская мова для ўсіх. Тэл. 76-38-02.
- Ангельская мова: рэпетытарства, пераклады. Тэл. 74-32-77.
- Біялогія і хімія: кантрольныя работы, кансультацыі. Тэл. 72-23-10 (пасля 18.00).
- Усё па гісторыі. Тэл. 47-35-26.
- Відэаздымка. Якасна, прафесійна выканаем работы па стварэнні відэафільма, відэакліпа, рэкламнага роліка. Ліц. МК N613 да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Звяртацца: 231900, Гарадзенская вобласць, г.Ваўкавыск, а/с 17. Тэл. 2-34-86.
- Відэаздымка вяселляў, вянчанняў, хрэсьбінаў, юбілеяў, ранішнікаў, выпускных вечароў. Камп'ютарная апрацоўка. Ліц. N499, выдадзеная МК РБ да 2003 года. Тэл. 6-07-25.
- Дапамагу ў выкананні тынкавальных работаў. Тэл. у Ваўкавыску: 4-33-20 (запрасіць Пятра).
- Сканаванне, раздрукоўка на фотапрынтары, фотамантаж. Танна. Устаноўка праграмаў на камп'ютар, дапамога пры набыцці ПК, рэпетытарства. Тэл. 31-07-48 (запрасіць Віктара).

*ГАРАДЗЕНСКІ АБЛАСНЫ ЦЭНТР ПРАФІЛАКТЫКІ СНІДу*

шукае спонсараў, ахвотных унесці свой пасільны ўклад у справу прафілактыкі ВІЧ-інфекцыі на тэрыторыі вобласці ў выглядзе адлічэння сродкаў на разліковы рахунак абласнога Цэнтра прафілактыкі СНІДу і выдаткаваць сродкі на выданне тэматычных памятак, улётак для насельніцтва.

*Па інфармацыю звяртацца на адрас:*

**г.Гродна, вул.Кірава,14**
**Тэлефоны: 72-30-73, 72-17-72**

## РОЗНАЕ

Маладыя, ініцыятыўныя гарадзенскія хлопцы і дзяўчаты запрашаюць усіх ахвотных далучыцца да ўдзелу ў распачатай выбарчай кампаніі. Вясёлых сяброў, рамантыку і ўдзячнасць нашчадкаў гарантуем. Збор - кожны чацвер у 19.30 па адрасе: вуліца К.Маркса,11 (першы паверх). Даведкі (кругласутачна) па тэл. (8-029) 602-98-86 /Вадзім/.

- Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-40.
- Замаўляйце новы нумар газеты «Голас камбатанта». Невядомае пра атамана Дзергача, Міхася Ганько, Сымона Раманчука, 900 гадоў Усяславу Чарадзею. Замовы накіроўвайце на адрас: 220108, г.Менск, а/с 57 (E-mail: Kambatant@yahoo.com).
- Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-70.

Далучайся да Мастоўскага руху «Малады фронт». Тэл. 2-14-70 (запрасіць Алеся).

- Здыму квартэру з тэлефонам, можна без мэблі. Тэл. 31-23-27.
- Шукаю працу на прадпрыемстве па вырабу балконных рамаў, укладцы шведскай падлогі. Тэл. 2-16-71, 6-63-39.
- Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41.
- Новы выбар на «Выставе аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі», што знаходзіцца ў Гродне па вуліцы К.Маркса,11 (другі паверх). Выстава працуе кожныя панядзелак і сераду з 17.00 да 20.00 гадзін.

Замаўляйце і чытайце «Голас Краю» - газету беларускіх нацыяналістаў. Звяртайцеся на адрас: 230003, горад Гродна, а/с 100.

- Маю патрэбу ў вырабе каляровага фотамедальёна на эмалі з майго негатыва на помнік. Звяртацца: 246028, г.Гомель, да запатрабавання (М.Несцяровічу).
- Дапамажыце ахвяраваннямі на праваслаўны храм у Слуцку (Царкву Раства Багародзіцы) на разліковы рахунак 3015000001248 у ААБ Беларусбанк /філіял 615/. Тэл. (8-017) 959-08-71 (запрасіць настаяцеля Аляксандра Аляксандравіча Кораня).
- Грамадскае аб'яднанне аховы жывёлаў «Дабрыня» просіць аказаць дабрачынную дапамогу для ўтрымання бяздомных жывёлаў. Наш разліковы рахунак у гарадзенскім ААТ Белпрамбудбанк - 301501629011, МРО 335 (код банка).
- Праўду кажа спадар Зянон Пазьняк, калі сцвярджае, што на Беларусі ідзе чарговае вынішчэнне беларускай мовы, сімволікі, атрыбутыкі (на грошах, тэлебачанні, шыльдах і гэтак далей), а значыць, - з'явілася рэальная пагроза беларускай дзяржаўнасці. Так, над нацыянальнай бяспекай краіны (Беларуссю) завісае «дамоклаў меч». Суайчыннікі! Надышоў час кожнаму з нас вызначыцца на выбарах прэзідэнта-2 Рэспублікі Беларусь. Вы...за паступовую страту беларускай дзяржаўнасці і знікненне ў далейшым Беларускага этнасу, ці - за беларускую Беларусь? Так, наш лёс і лёс краіны ўвогуле ў нашых руках! Дык галасуйце напэўна! Алесь Шустоўскі, г.Барысаў.

Час выбіраць! Будзь «ЗУБРАМ»! Тэл. 31-25-35 (аб.12115).

## ЗНАЁМСТВЫ

- Малады хлопец, 22/175 (па гараскопу належу да Блізнятаў), жадае пазнаёміцца з дзяўчынай ад 25 да 35 гадоў (можна з дзіцём) для сур'ёзных зносінаў. Цаню вернасць, дабрыню і прыгажосць. Да свабоды - пяць месяцаў. Чакаю! Пішыце на адрас: УЖ 15/ст-1 (Ігару Яўгенавічу Афанасьеву).

## ВІНШАВАННІ

***Віншуем цябе, Ніна, з Днём нараджэння!***

Жадаем поспехаў, здароўя, добрых адзнакаў у школе і ўсяго таго, што ты сабе пажадаеш!

**Лёша, мама і сваякі**

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

**31** **Імя і прозвішча** ____________

**Адрас (тэлефон)** ____________

**Рубрыка** ____________

**Тэкст** ____________

Аб`явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

**Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11**

**Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам.**

## ЗДАРОЎЕ

# Медзь - панацэя ад хваробаў

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 27-30**

Пры адэноме трэба прыкладаць медную пласцінку на ніз жывата. Гэта здыме болі. Вельмі добра пры адэноме штодня есці па 30 семачкаў гарбуза, з якога варыць кашу. Белыя семкі пажадана есці не адзін год. Я спрабаваў шараваць напільнікам медзь на хлеб ды ў кашу і есці. Вынікі былі вельмі добрыя, аднак параіць такое іншым не адважваюся. Я ўжываў парашок медзі на працягу васьмі месяцаў. Пакуль не пашкодзіла. Ужо год не ўжываю.

Медныя пласцінкі робяцца з бляхі рознай велічыні і таўшчыні. Калі такая пласцінка прыбінтоўваецца да хворага месца, то яе можна рабіць нават з фальгі. Недахоп пласцінкі з тоненькай бляхі толькі ў тым, што яна даволі хутка ломіцца, а ў астатнім добра выконвае лекавыя функцыі. Самае галоўнае, што тонкая пласцінка вельмі добра прылягае да цела. Найбольш зручна для хворага, калі на канцах пласцінкі зробленыя адтуліны дыяметрам у трычатыры міліметры, у якія зацягваецца гумка. Надзець ці зняць такую пласцінку можна за адну-дзве секунды.

Для лячэння радыкуліту ці прастуды можна выкарыстоўваць медныя пласцінкі таўшчынёю да міліметра, памеры якіх могуць быць прыблізна 7х20 сантыметраў. Пласцінкі гэтыя для любых мэтаў трэба дакладна і старанна апрацаваць: закругліць нажніцамі вуглы, напільнікам згладзіць краі, каб пры лячэнні не пакалечыць цела.

Тыя пласцінкі, што пры лячэнні зубоў бяруцца ў рот, пажадана рабіць з бляхі ў адзін-два міліметры таўшчынёю, каб лепш адчуваць іх у роце.

Для чысткі пласцінак можна выкарыстоўваць пясок, попел, металічныя шчоткі, аднак найзручней чысціць іх наждачнай паперай.

Часта людзі пытаюцца: дзе браць медную бляху. Яе прадаюць на рынку, у магазінах «Зрабі сам». Медная бляха бывае на складах заводаў. Два-тры квадратныя дэцыметры яе для лячэння можна папрасіць у загадчыка склада. Звычайна ёсць медная бляха ў электрыкаў.

Я карыстаюся меддзю амаль 13 гадоў. Апошнія пяць гадоў прыкладаю да рук, ног, жывата, галавы і спіны 28 медных пласцінак адначасова. І ніякай шкоды для арганізма не адчуваю. Урэшце прафесар анкалогіі мне сказаў, што медзь не можа пашкодзіць, бо яна ёсць у арганізме кожнага чалавека. Лічу гэтае выказванне правільным. Аднак, кожны хай сам вырашае: чым і ў якіх дозах лячыцца.

Людзей часта цікавіць: ці можна прыкладаць медзь, калі ўжо зрабілі аперацыю. Прыкладваць медныя пласцінкі можна ў любым выпадку. Важна толькі, каб не позна гэта адбылося. Лекараў трэба слухаць і выконваць усё, што яны кажуць, каб выкарыстаць усе шанцы для выздараўлення.

Лічу, што доўга яшчэ будуць знаходзіцца новыя доказы гаючай сілы медзі.

Так здарылася, што на месцы ранейшай пухліны мне зноў пачала балець ступня нагі, на якую ўсе гады прыкладаў я па дзве медныя пласцінкі. Тады я падумаў, што мо лепш прыклейваць пластырам невялічкую пласцінку непасрэдна на месца пухліны. Літаральна тры дні такога эксперыменту - і болі амаль зніклі. Здавалася, што і медныя пласцінкі на гумцы шчыльна прылягаюць да хворага месца, але непасрэднае і беспярапыннае ўздзеянне на пухліну дало значна лепшыя вынікі.

Напэўна, у чытачоў узнікнуць пытанні. Але прашу лістоў не пісаць, бо маю вялікую перапіску, і не хапае часу ўсім адказаць. Звяртайцеся, калі ласка, па тэлефонах у Мастоўскім раёне: мой хатні тэлефон: (8-215) 2-87-87; тэлефон музея, у якім працую: (8-215) 2-87-82.

**Алесь Белакоз**

# Крыванос пакінуў «Нёман»

Чэмпіянат Беларусі. Вышэйшая ліга. 14-ы тур. 28 ліпеня.

**«Нёман-Белкард»** (Гродна) - **«Дынама»** (Менск) 1:1 (Давыдаў - 59; Валадзенкоў - 54).

Чэмпіянат дублёраў **«Нёман-2»** - **«Дынама-2»** 1:6 (Вярстак 17 (1:0);).

**Гульня з «Дынама» была развітальнай для гарадзенскага абаронцы Артура Крываноса. Усё ж такі «Нёман» быў вымушаны прадаць Артура ў расейскі «Нафтахімік», каб неяк папоўніць свой бюджэт.**


Артур Крыванос (у цэнтры) праводзіць мяч вачыма

Нягледзячы на высокі трэці радок у табліцы, на фоне рэактыўных сталічных футбалістаў гарадзенцы выглядалі, як чарапахі, якіх прымусілі бегчы спрынтарскі забег. Часам здавалася так, што гэта не дынамаўцы, а гарадзенцы правялі на працягу дзвюхтыднёвай міжкругавой паўзы тры складаныя гульні ў Кубку Інтэртата, а «Дынама» ў гэты час планамерна рыхтавалася да адказнай гульні ў Гродне.

Перавага менчукоў праглядалася ва ўсім. У арганізацыі гульні, дысцыпліне, узаемаразуменні футбалістаў, «дынамаўцы» выглядалі на дзве галавы вышэй за гарадзенцаў. І гэта не кажучы пра культуру паса, індывідуальнага майстэрства. Дзеянні менскага трыо - Чумачэнкі, Валадзянкова, Качуры - гарадзенскім футбалістам трэба запісваць у футбольныя падручнікі.

Па-ранейшаму не пусцее лазарэт «Нёмана». Толькі паспеў ачуняць абаронца «Нёмана» Дзмітрый Раўнейка, як ўжо перад самай гульнёй, на размінцы атрымаў маў траўму Юрый Маміда. Замест яго тэрмінова быў выпушчаны ўступіць у гульню Сяргей Давыдаў, выхад якога планаваўся толькі ў другім тайме.

Пачатак гульні быў за гарадзенцамі. Ужо на трэцяй хвіліне Сяргей Давыдаў з вострага вугла трапляе ў штангу. Але дадзены момант не ідзе ні ў якое параўнанне з «залпам» Чумачэнкі. Пасля ўдару менчука мяч трапіў у перакладзіну, а на дабіванні выратаваў брамнік «Нёмана» Аляксандр Суліма. Увогуле, гарадзенец у гульні выглядаў бліскуча, акрамя моманту, калі Валадзянкоў, дзякуючы гарадзенскім абаронцам, паслаў мяч у нашу браму. Праз пяць хвілінаў адзін з лепшых галоў «Нёмана» ў гэтым чэмпіянаце забіў Давыдаў. Нападнік гарадзенцаў сам зарабіў штрафны і ў стылі «а-ля Сініша Міхайлавіч» у абвод сценкі, мяккім закручаным ударам перапраўляе мяч ў дальнюю дзевятку дынамаўскай брамы. Брамнік менчукоў Сідзельнікаў нават не зварухнуўся.

А эпагеем усёй сустрэчы мог стаць момант, які здарыўся за дзесяць хвілінаў да канца сустрэчы. Чарговая «гармата» Чумачэнкі зноў прыйшлася ў перакладзіну. Пасля гэтага мяч адскочыў у штангу і замітусіўся каля лініі брамы, дзе ім авалодаў Суліма. Бакавы суддзя даў знак працягваць гульню. Шмат каму падалося, што мяч перасек «стужачку». Не прэтэндую на ісціну, аднак, з таго месца, дзе знаходзіўся я, было добра відаць, што рашэнне суддзі было слушным.

Каментар галоўнага трэнера **«Нёмана-Белкарда»** *Сяргея Саладоўнікава*:

***- Ведалі пра цяжкі гульнёвы графік менчукоў, таму стаўку рабілі на другі тайм. Не атрымалася. Наогул, гульня была роўнай. Лік, на маю думку, справядлівы.***

Гульню 15-га туру «Нёман» правядзе 4-га жніўня на выездзе з «Гомелям».

Пасля 14-ці тураў «Нёман» з 26-цю ачкамі у табліцы займае 3-ці радок. Наперадзе толькі «БАТЭ» і «Белшыны», у якіх па 32 ачкі.

**Аляксандр Зінакоў, Дзяніс Курчэўскі**

# «Ніва» са свістам праехалася па «Азоту»

**Гарадзенская каманда па матаболе «Азот», ведучы ў ліку 2:0, у выніку саступіла 3:6 «Ніве» з вёскі Лунін Берасцейскай вобласці ў V туры нацыянальнага першынства.**

У першым тайме гарадзенцы не пакінулі ад берасцейцаў живога месца. Часам гарадзенцы на сваіх «жалезных конях» дэманстравалі сапраўдныя цуды валодання мячом. Чаго варты момант, калі на хуткасці матацыкл рэзка тармазіць і мяч з адной нагі пераводзіцца на другую.

Гэтым майстэрства матабалістаў не абмежавалася, што мяне, чалавека, які ўпершыню назіраў за такім відовішчам, вельмі ўразіла. Асабліва здзівіў гуляючы трэнер нашай каманды Яўген Кашкаха. Эфектныя дзеянні Яўгена і прывялі да двайнога ўзяцця брамы суперніка.

У другой палове гульні сваё важкае слова сказаў квартэт «ніўцаў», які ў складзе зборнай Беларусі на сёлетнім чэмпіянаце Еўропы атрымаў срэбныя ўзнагароды. Тытулаваныя госці прапанавалі гульню на сустрэчных хуткасцях. Нашыя матабалісты яго прынялі і, як выявілася пазней, дарма.

Гарадзенцы так захапіліся «наездамі», у літаральным сэнсе гэтага слова, на чужую браму, што берасцейцы чатыры разы злавілі іх на контратаках, і лік гульні стаў 2:4. Гуляючы трэнер «Нівы» Аляксандр Бабіч адзначыўся тройчы. Аднак, адзіны прадстаўнік беларускай зборнай у нашай камандзе Анатоль Багданец здолеў усё ж «прывезці» адзін мяч, што надало веры ў перамогу «азотаўцаў».

У апошняй трэці матча больш свежыя прадстаўнікі суседняй вобласці давялі лік да буйнога - 3:6. І толькі дзякуючы нашаму брамніку Мікалаю Ільюдчыку ён не стаў ганебным.

Пасля гульні галоўны трэнер **«Азота»** Яўген Кашкаха пракаментаваў ПАГОНІ вынік гульні:

***- Трэба прызнаць, што на сённяшні дзень «Ніва» мацнейшая за нас. Мы згулялі працэнтаў на 75 сваіх магчымасцяў. Прычыну паразы бачу ў няправільнай тактыцы ў другой чвэрці гульні. Нам трэба было адыйсці ў абарону і гуляць на контратаках. А замест гэтага мы хацелі як мага больш забіць, за што і атрымалі. Аднак, маглі не толькі вырваць нічыю, але і перамагчы аднаго з лідараў беларускага матаболу. Тым не менш, мы далі бой і прадэманстравалі, што наша маладая каманда ўмее гуляць.***

Пасля пяці тураў «Азот» займае чацвёртае месца сярод шасці камандаў, што ўдзельнічаюць у Чэмпіянаце Беларусі. Аднак, па страчаных ачках землякі маюць шанцы на медалі.

Ужо пятага жніўня гарадзенцы нанясуць «Ніве» візіт у адказ, а трэцяга і чацвёртага жніўня сустрэнуцца у гасцях з «Юнацтвам» і лідарам чэмпіянату - пінскім «Аўтамабілістам».

## Гарадзенскі дэсант на чэмпіянаце Еўропы

**У нядзелю, 5-га жніўня, жаночая зборная Беларусі па баскетболе (1982 года нараджэння і маладзей) ад'язджае ў румынскі горад Арат, дзе з 8-га па 12-е жніўня пройдзе паўфінальны турнір Чэмпіянату Еўропы «Сярод маладых жанчынаў». Складзена наша зборная на аснове баскетбалістак гарадзенскай «Алімпіі». Узначальвае зборную Беларусі Аляксандр Шымкавяк, які, як вядома, трэніруе і «Алімпію».**

На апошнім еўрапейскім чэмпіянаце баскетбалісткі нашай краіны вышэйзгаданага ўзросту падзялілі месцы з пятага па восьмае, і гэты вынік абнадзеіў беларускіх спецыялістаў баскетболу.

Як адзначыў ПАГОНІ Аляксандр Шымкавяк, у зборную прыехалі ўсе лепшыя 17-гадовыя і маладзейшыя баскетбалісткі нашай краіны. У добрым стане перад турнірам знаходзіцца лідарка «Алімпіі» Надзея Дрозд. Невялікія праблемы са здароўем у Лідзіі Панасюк і Таццяны Лавец, якія балюча сутыкнуліся на апошняй трэніроўцы. Паступова ідзе на папраўку пасля перанесеных аперацыяў і Вольга Цярэнцьева.

Аляксандр Шымкавяк не называе канкрэтна той вынік, які б задаволіў беларускую каманду. Безумоўна, хацелася б выступіць хаця б не горш, чым на папярэднім турніры. Аднак, беларускі патрапілі ў вельмі складаную групу разам з баскетбалісткамі Румыніі, Венгрыі, Славакіі ды Літвы. Шмат што будзе залежаць ад першай гульні з гаспадынямі спаборніцтваў. Славацкія дзяўчыны 1982 года нараджэння лічацца аднымі з мацнейшых у Еўропе. У складзе літовак будуць гуляць пяцёра дзяўчатаў, якія зараз вучацца ў Амерыцы. У фінальную частку еўрапейскага першынства трапляюць дзве лепшыя каманды нашай падгрупы. А пуцёўкі на Сусветнае першынство 2004 года атрымаюць каманды, якія зоймуць першыя восем месцаў на Еўропе.

У выязны склад нашай каманды ўвайшлі Надзея Дрозд, Вольга Цярэнцьева, Лідзія Панасюк, Ірына Аўрамчык, Наталля Багдановіч, Ганна Мацкевіч (усе - з «Алімпіі»), Таццяна Лавец, Марына Каваленка, Таццяна Курко (усе - з «Гарызонта» /Менск/) і Алена Леўчанка (апошні сезон гуляла ў ЗША). Дарэчы, Алена дала згоду на будучы год выступаць у Гродне ў выпадку, калі яна не здолее паступіць у Філадэльфійскі універсітэт.

Расклад гульняў зборнай Беларусі: 8.08 - Румынія, 9.08 - Венгрыя, 10.08 - Славакія, 12.08 - Літва.

**Падрыхтаваў Дзяніс Курчэўскі**

СУМЕЖЖА

# «Трыялог»: беларуская культура ідзе ў Еўропу

**З 27-га па 30-е ліпеня ў мястэчку Крынкі, што на Беласточчыне, сабралося 17 беларусаў, палякаў, расіянаў і шведаў, якіх цікавіць Беларусь. У гэтыя дні там праходзіла спатканне літаратараў, перакладчыкаў і навукоўцаў «Трыялог». Пра яго расказвае ПАГОНІ ўдзельнік «Трыялогу», гарадзенскі паэт Алесь Чобат:**

- «Трыялог» паўстаў у 1999 годзе. Сёлета адбылося трэцяе спатканне. Сярод удзельнікаў - вядомы беларускі перакладчык Лявон Баршчэўскі, польскі навукоўца Рычард Радзік, шведскі славяніст Дзміт Плакс ды іншыя. Фінансуецца «Трыялог» прадпрымальнікамі-беларусамі з Польшчы і Міністэрствам культуры і нацыянальнай спадчыны. Мэта спаткання - данесці беларускую культуру ў свет. А «Трыялог» - таму што ёсць беларуская літаратура ў Беларусі, ёсць у Польшчы, і ёсць пераклады на мовы Еўропы. Пасля кожнага спаткання выдаецца кніга «Annus Albaruthenikus» («Год беларускі»), у якой даклады выступоўцаў друкуюцца на розных еўрапейскіх мовах... У прынцыпе «Трыялог» падобны на тое, што рабілася гадоў 50 таму у Францыі, калі вакол нейкай асобы збіраўся прыватны салон, а пасля гэта перарастала ў нешта большае. Тыя ж масон-лафіты Гедройца.

***- А хто стаў такой асобай для «Трыялогу»?***

- Беларускі пісьменнік у Польшчы Сакрат Яновіч. Першыя гады ўдзельнікі сустрэчы нават кватаравалі ў яго хаце ў Крынках. А сёлета сустрэча адбывалася на хутары Лапічы. Там нядаўна пабудавалі з адрыны стылізаваны гатэльны комплекс. Я напачатку здзівіўся, што знайшоўся чалавек, які ў гэткую занядбаную прымежную мясціну адважыўся ўкласці грошы. Пасля зразумеў. Уладары гатэля - немцы. Прычым, зараз яны ў мінусе. Гатэль акупіцца ім толькі праз 15 гадоў. Проста яны ўпадабалі гэты край і вераць у яго перспектывы.

***- Удзел у спатканні бралі слынныя навукоўцы. А які з дакладаў Вы б адзначылі?***

- Выступленне Рычарда Радзіка з універсітэта імя Марыі Складоўскай-Кюры ў Любліне. Ягоны даклад «Між Расеяй і Польшчай: нацыянальна-культурная эвалюцыя беларускага грамадства на працягу двух апошніх стагоддзяў» - сенсацыйны. Ён прыйшоў да высновы, што першая палова XIX стагоддзя - перыяд не Расейскай акупацыі, як у нас усе крычаць, а час самай моцнай паланізацыі за ўсю гісторыю беларуска-польскіх адносінаў.

***- Штогод у спатканні ўдзельнічаюць шведы. Удзельнік мінулага «Трыялогу», рэдактар першага канала радыё «Швецыя» Альбін Абрахамсан, нават выдаў у Швецыі кнігу «Беларусь» - для тых, хто ўпершыню чытае пра нашу краіну. На Вашу думку, чым абумоўленая такая цікаўнасць шведаў да нас?***

- Шведска-беларускія кантакты нашмат глыбейшыя, чым у нас прынята думаць. Яны не абмяжоўваюцца адной Паўночнай вайной. Між іншым, той самы Абрахамсан знайшоў у архівах, што наш Рагвалод - скандынаўскі конунг Ранкінгвальд. Абодва імені перакладаюцца як «уладальнік лесу». Вайна паміж Полацкам і Кіевам была фактычна вайной паміж дацкай і шведскай калоніямі. Шведскія харцы ўдзельнічалі ў грамадзянскай вайне на баку Свідрыгайлы ў XV стагоддзі. Князь Радзівіл у XVII стагоддзі спрабаваў заключыць унію са шведамі. Пасля Паўночнай вайны ў нас засталося звыш 70-ці тысяч прозвішчаў Швед.

Акрамя гэтага, скандынавы - так званыя мужыцкія народы, у іх ніколі не было эліты, шляхты, а значыцца - рабства. Таму там увесь народ - эліта. Пры ўсіх інтэрнетах у кожнага шведа дома 7-8 тысяч кніг. Шведаў увогуле цікавіць свет, а разам з ім і Беларусь.

**Алеся Сідлярэвіч**

**На здымку: Алесь Чобат**



ПАГОНЯ
Заснавальнік: Гродзенскае грамадскае аб'яднанне "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 1.08.2001 г. Замова 2 230 Наклад 7 875

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць пагляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - тры ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Ірына Салей
Камп'ютарная вёрстка: Дзмітрый Какарэка